BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 8(56) Верасень 1998 September Год выд. 6.

Пакуль агонь беларускай нацыянальнай ідэі будзе гарэць у сэрцах беларусаў, пакуль наш розум будзе імкнуцца зьдзейсьніць мару пра дзяржаўнасьць Беларусі, пакуль будзем любіць і шанаваць нашу васільковую і шыпшынную Бацькаўшчыну, пакуль не пакінем матчыну мову нашу, не здрадзім ёй, не адарвемся, як той Антэй, ад роднай зямелькі нашай, датуль Беларусь будзе непераможнай, датуль будзе жыць беларускі народ...

Радзім Гарэцкі, віцэ-прэзыдэнт Акадэміі навук Беларусі.



## З дакладам аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі выступіў у Жэневе каардынатар Хартыі-97 Андрэй Саннікаў

З дакладам аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі выступіў на 50-й сесіі Падкамісіі ААН па папярэджанні дыскрымінацыі і абароне меншасцей, што праходзіць гэтымі днямі ў Жэневе, каардынатар па міжнародных сувязях Хартыі-97 Андрэй Саннікаў.

А.Саннікаў прывёў шматлікія факты парушэнняў уладамі канстытуцыйных правоў і свабод беларускіх грамадзян. Ён заявіў, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі патрабуе назначэння спецыяльнага дакладчыка ААН.

Парушэнням правоў чалавека ў Беларусі была прысвечана і частка выступлення на сесіі члена Падкамісіі ААН па папярэджанні дыскрымінацыі і абароне меншасцей прафесара Дэвіда Вайсбродта. Ён канстатаваў, што сітуацыя ў Беларусі пагоршылася, і вінаватыя ў гэтым прэзідэнт і беларускі ўрад.

Афіцыйная дэлегацыя Беларусі, якая прысутнічала на сесіі ў якасці наглядальніка, выкарыстала права на адказ, які зачытаў супрацоўнік беларускага прадстаўніцтва ў Жэневе Алег Іваноў. У прыватнасці, ён назваў выступленне А.Саннікава "правакацыйнай заявай", у якой "падтасоўваюцца" і "тэндэнцыйна выкладаюцца" факты аб сітуацыі ў Беларусі.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

## ЭКАНАМІЧНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ КРЫЗІС Ў РАСЕІ

Прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын звольніў нядаўна назначанага прэм'ер міністра Сяргея Кірыенку, а на яго месца паўторна назначыў В. Чэрнамырдзіна. За Кірыенкам пайшлі ў адстаўку В. Нямцоў і Чубайс. З перакананьня ўсе яны прыхільнікі эканамічнае рэформы, а па паходжаньні габрэі. Выглядае, што Б. Ельцын маніцца накіраваць сваю палітыку ў больш нацыяналістычна-імперскае русло, хоць ведаючы Ельцына, можна спадзяявацца ўсякіх паваротаў, выкрунтасаў і вяртаньняў. Часамі выдаецца, што Б. Ельцын і прэзыдэнт Беларусі А. Лукашэнка характарамі даволі падобныя.

Для беларускае справы і Чэрнамырдзін і Ельцын, людзі непрыхільныя. Чэрнамырдзін разам з Лукашэнкам заўзята выкопвалі пагранічныя слупы на беларуска-расейскай мяжы, а другі пры кожнай нагодзе абдымаецца і моцна цалуецца з Лукашэнкам.

Цяперашні крызіс у Расеі пачаўся з упадку вартасьці расейскага рубля. Заходнія дэмакраты напампавалі Маскву рознымі патрэбнымі і непатрэбнымі данацыямі, пазыкамі і бізнэсовымі выгадамі. І данацыі і пазыкі ў Маскве доўга не затрымоўваліся, а рознымі цёмнымі дарогамі перавозіліся назад на захад. На гэтым шмат людзей з абодвух бакоў моцна багацелі. А расейскі народ з гэтага ня меў ніякае карысьці. За Масквою бяда аж пішчыць... Гэтая эканамічная інвазія ў Расею адбывалася спэкулятыўнымі ходамі, амаль безкантрольна, і можна сказаць бязмэтна. Нібы ўкараняўся дэмакратычны лад, эканамічная і палітычная перабудова, а на самай справе аграмадная бальшыня рускіх ня маюць зялёнага паняцьця з чым гэтую "дэмакрацыю" есьці і наагул, што гэта за птушка...

І ўсё гэта рабілася і будзе рабіцца толькі дзеля таго, што Расея мае тысячы атамных бояталовак, частка з якіх можа быць продана за вялізарныя грошы. Вось дзе прычына такое "шчырае" дапамогі Расеі. Захад лічыць, што лепш і дзяшавей даваць Расеі вялікую дапамогу і мець нейкую гарантыю аб нераспаўсюджваньні атамнае зброі (хоць гэта таксама праблематычна), чым мець дачыненьне з варожымі ўзброенымі атамнай зброяй дзяржавамі. Калі-б не атамная зброя, Расея была-б залічана ў 3-ю ці 4-ю эканамічную групу, і з ёю лічыліся-б паводле гэтага статусу.

Штучная фінансавая піраміда ў Маскве ўпала, але яе будуць памалу адбудоўваць ды з гэтага нічарта ў прынцыпе не атрымаецца. бо Расея была, ёсьць і будзе краінай эканамічна і палітычна адсталай і зруйнаванай...





*У Расіі шуснуў уніз рубель, фінансавая сістэма краіны дала відочную трэшчыну. Друк паведамляе пра сапраўдную паніку сярод насельніцтва, выкліканую павышэннем цэн на прадукты харчавання і ажыятажным попытам на цвёрдаканверсоўную валюту. Дрэнна ўсё гэта, вядома. Для расіян. Дык жа для нас — таксама! І наш жа рубель задрыжаў. І яго каціроўка ў дачыненні да долара на "чорным рынку" падскочыла: на ім у валютчыкаў "зялёны" зараз можна купіць ужо за 80 і больш тысяч "зайчыкаў". Дрэнна, бо і ў нас паніка сярод насельніцтва. Ну калі яшчэ й не паніка, дык — гул здзіўлення і незадавальнення. Прынамсі, на Камароўскім рынку, які выручае сотні тысяч мінчукоў і гасцей сталіцы. Там аб адным дні цэны на алей, грэчку, рыс, цукар, рыбныя кансервы і многае іншае падскочылі на тры-чатыры-пяць і больш тысяч рублёў. Вось якім бокам вылазіць нам наша аднабаковая арыентацыя, даруйце за міжвольны каламбур. Спалучаныя сасуды заўсёды гэтак дзейнічаюць. І нешта цяжка верыцца ў супакаяльныя афіцыйныя заявы "аб поўным кантролі над развіццём сітуацыі..."*

НА БЕЛАРУСІ

ўжо ад нейкага часу купіць або афіцыйна абмяняць даляры амаль немагчыма. Беларускія банкі даляраў ня маюць, а калі і маюць, дык толькі для асобна выбраных прыхільнікаў Лукашэнкі. А на чорным рынку цана даляра вагаецца ад 90.000 да 110.000 рублёў за даляра. Высылаць валюту ў лістах вельмі небясьпечна, крадуць!

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## *У Віскулях рыхтаваўся расійскі дзяржаўны пераварот?*

«НАВІНЫ»

У мінулую сераду адбылася сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з расійскімі губернатарамі. Але ў госці да беларускага прэзідэнта прыляцелі далёка не ўсе тыя, каго асабіста запрасіў да сабе Аляксандр Лукашэнка.

З сарака запрошаных губернатараў спецрэйсам з Масквы ў Брэст прыляцела толькі трынаццаць кіраўнікоў расійскіх рэгіёнаў — даўніх сяброў Аляксандра Рыгоравіча. Пры гэтым некаторыя губернатары прыслалі замест сябе сваіх намеснікаў. Яшчэ адзін расійскі кіраўнік — губернатар Стаўрапольскага края Аляксандр Чарнагораў — прыляцеў на дзень раней. Астатнія ж (чакалася прыбыццё такіх каларытных фігураў, як губернатар Краснаярскага края Аляксандр Лебедзь, мэр Масквы Юрый Лужкоў, прэзідэнт Інгушэціі Руслан Аўшаў і г.д.) у апошні момант вырашылі застацца дома. Некаторыя расійскія аналітыкі сцвярджаюць, што на канчатковае рашэнне губернатараў «паўплывала ўнутраная кан'юнктура»: што ж, магчыма.

У Брэсце губернатараў сустрэла ўрадавая дэлегацыя на чале з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам. Расійскіх гасцей адразу павезлі ў Белавежскую пушчу. Візіт губернатараў у Беларусь адбыўся, калі Барыс Ельцын адпачываў ад дзяржаўных справаў у Карэліі. У той жа час Дзярждума Расіі абмяркоўвала (у чарговы раз) пытанне пра імпічмент расійскаму прэзідэнту і дэнансацыю Белавежскіх пагадненняў, а некаторыя расійскія праварадыкальныя выданні са спасылкай на неназваныя інфармацыйныя агенцтвы паведамлялі пра новую хваробу Ельцына: маўляў, *«барахляць шунты на Барысавым сэрцы»*.

Аляксандр Лукашэнка запрасіў расійскіх губернатараў у Віскулі — сімвалічнае месца як для яго, так і для іншых барацьбітоў за адраджэнне СССР. Якраз у Віскулях амаль сем гадоў таму былі падпісаныя Белавежскія пагадненні, якія канчаткова зафіксавалі распад Савецкага Саюза. Калі ўважаць на схільнасць беларускага прэзідэнта да тэатральных эфектаў, не выключана, што ў Віскулях чакалася падпісанне нейкай новай саюзнай дамовы з Расіяй на ўзроўні рэгіёнаў — без удзелу апошняга «белавежскага зубра» Барыса Ельцына. Асобныя аналітыкі выказваюцца нават больш катэгарычна: у Віскулях нібыта рыхтаваўся расійскі дзяржаўны пераварот, які меўся адхіліць ад улады Барыса Ельцына — напрыклад, «па стане здароўя», як ГКЧП у жніўні 1991 г. «даў адстаўку» Міхаілу Гарбачову. Вельмі паказальна тое, што ў групу губернатараў уваходзіць член ГКЧП Васіль Старадубцаў, сённяшні кіраўнік Тульскай вобласці.

Што гаворыць на карысць такой версіі? Ніколі яшчэ беларускі прэзідэнт не праводзіў такіх маштабных сустрэчаў з кіраўнікамі расійскіх рэгіёнаў. Прызнанні губернатараў, што яны нібыта *«прыехалі падтрымаць Аляксандра Лукашэнку ў ягонай барацьбе супраць Захаду»* і тым болей *«наведаць Брэсцкую крэпасць і паўдзельнічаць у закрыцці «Славянскага базару»*, выглядаюць проста наіўна. Што прымусіла, напрыклад, кіраўніка адміністрацыі Уладзімірскай вобласці Мікалая Вінаградава літаральна праз тыдзень пасля візіту ў Мінск на чале прамысловай дэлегацыі і сустрэчы з беларускім прэзідэнтам зноў вяртацца ў Беларусь? Няўжо толькі закрыццё «Славянскага базару»?

Хутчэй за ўсё, губернатары, большасць з якіх прадстаўляюць гэтак званы «чырвоны пояс» Расіі, спатрэбіліся беларускаму прэзідэнту дзеля куды больш важнай справы. Тым больш, што сітуацыя ў Расіі надзвычай спрыяльная: шахцёры па-ранейшаму бастуюць, перакрываюць чыгунку, Дума пратэстуе, урад збіраецца скараціць бюджэтныя праграмы, а прэзідэнт адпачывае і можа нават цяжка хварэе. І вось тут на сцэне замест старога і хворага Барыса Мікалаевіча з'яўляецца «калектыўны орган» — так бы мовіць, «Союз Независимых Губерний», створаны кіраўнікамі амаль паловы з 89 суб'ектаў Расійскай Федэрацыі і падтрыманы маладым і энергічным Аляксандрам Лукашэнкам.

Развіццё падзеяў на гэтым тыдні дае ўскосныя пацверджанні гэтаму сцэнарыю расійскага путчу'98. Барыс Ельцын, хутчэй за ўсё, строга папярэдзіў кіраўнікоў рэгіёнаў, і яны адмовіліся ад візіту ў Беларусь. Таму ў Віскулі, Мінск і Віцебск паехалі толькі самыя адданыя сябры Аляксандра Лукашэнкі — каб сумна паразважаць пра даўгі за энерганосьбіты і нахабства заходніх амбасадараў. Барыс Ельцын здымае з пасады кіраўніка ФСБ Расіі Мікалая Кавалёва — магчыма, за тое, што «прагледзеў змову ў родных пенатах». А ў сераду нечакана для ўсіх расійскі прэзідэнт перарывае свой адпачынак у Шуйскай Чупе і вяртаецца ў Маскву — каб паказаць, хто ў Крамлі сапраўдны гаспадар.

Маскоўскія тэлеканалы ўжо ў сераду папярэджвалі: у расійскім урадзе чакаюцца новыя перастаноўкі — будуць, як заўсёды, шукаць вінаватых.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Каб жылі доўга і незалежна!

«НАРОДНАЯ ВОЛЯ»



Кожны, напэўна, назіраў такую з'яву: нехта зняў каменную пліту з зямлі — тут жа, літаральна праз некалькі дзён, на тым месцы дружна пачынае прабівацца трава. Праз які тыдзень тое месца ўсё паспявае пакрыцца зелянінаю, і ўжо цяжка пазнаць, дзе ляжала тая пліта.

Так было нядаўна і ў нашым грамадстве: мы скінулі з сябе цяжкую бетонную пліту расійскай асіміляцыі — і адразу мова наша ажыла, зарунела, закрасавала... Ды, на вялікі жаль, так працягвалася ўсяго некалькі гадоў. Цяпер тая пліта зноў апусцілася на нашу мову, культуру, на ўсю нацыю. Мы зноў сталі задыхацца пад цяжарам асіміляцыі.

Закрываюцца беларускія школы і беларускія класы ў школах, перш за ўсё ў вялікіх гарадах, дзе асіміляцыя асабліва лютуе.

Выдавецтвы да мінімуму скарацілі план выданняў на беларускай мове, а разам з гэтым і штаты сваіх работнікаў. Беларуская кніга стала дарагой, яе мала хто купляе і чытае. Дык навошта яе выдаваць? Няма лішніх грошай у бюджэце! Так тлумачыць высокае кіраўніцтва. Хоць грошы на што іншае, прычым куды менш істотнае, чым культура, у бюджэце знаходзяцца.

Чыноўнікі і не думаюць вывучаць беларускую мову, яны цяпер кажуць так: а навошта яна нам здалася? Руская мова ў нас дзяржаўная, мы яе ведаем — і з нас хопіць. І з дзяцей нашых — таксама...

За беларускае слова б'юць гумовымі палкамі і кідаюць у турмы, штрафуюць мільённымі штрафамі.

Такая вось катастрафічная атмасфера — духоўны Чарнобыль — пануе ў нашай пакуль яшчэ суверэннай дзяржаве ўжо некалькі гадоў, і ў лепшы бок зруху не відаць.

А што мы ўбачым, калі Беларусь далучыцца да Расіі, калі поўнасцю з ёю сальецца? Ці можна будзе тады нават марыць пра росквіт беларускай культуры, мовы, літаратуры, мастацтва? Думаю, што пра гэта ніхто і не ўспомніць: навошта, каму гэта трэба?

Усё беларускае скончыцца і растане ў расійскім вялікім моры. І праз якіх пяцьдзесят гадоў пра нас будуць успамінаць як пра дзіўны народ, што па сваёй волі пайшоў на згубу.

Але калі скажуць, што гэта сам народ выбраў сабе такі лёс, то гэта будзе няпраўда. Так захацеў наш прэзідэнт, які атрымаў ад народа неабмежаванае права рабіць па-свойму. Наш народ такі: усё хоча сам паспрабаваць, усё зведаць на ўласнай скуры, ён не любіць вучыцца і пераймаць лепшае ў іншых народаў.

Ды не будзем забываць, што нельга знайсці тое, што згублена назаўсёды. Каб мы потым не гаварылі, што нас ніхто не папярэджваў, не прыводзіў довадаў і доказаў, што мы ідзем не па той дарозе, па якой трэба ісці ў будучыню. Бо будучыні там для нас няма, а ёсць немата, небыццё.

У гісторыі чалавецтва былі і будуць дзве тэндэнцыі: адна да аб'яднання, другая — да адасаблення. Прыхільнікі першай — гэта вялікія колькасна, магутныя народы, якія гатовы аб'ядначца хоць з цэлым светам, бо ім не пагражае асіміляцыя, яны ўсё роўна будуць наверсе, будуць кіраваць іншымі.

Прыхільнікі другой — колькасна невялікія народы, якія ў большасці сваёй жылі пад прыгнётам дужэйшых і вялі барацьбу за сваё вызваленне. І ўрэшце, здабыўшы незалежнасць, не хочуць яе аддаваць, губляць зноў, бо яны добра спазналі, што гэта такое — чужы прыгнёт.

Дзіўна тое, што мы, беларусы, праўда, не ўсе, гатовы жыць пад чужым прыгнётам, і нас гэта не палохае, бо мы да яго прызвычаіліся, як вол да ярма. Мы баімся жыць незалежна, самастойна, бо забыліся, што такое свабода і незалежнасць. (Было тое, але даўно, гісторыі ж сваёй мы не ведаем, яе нам не давалі чытаць знарок.) І мы баімся, што адныя загінем, згубімся і заблудзімся, як дзіця ў лесе, і таму не хочам адпускаць рукі "старэйшага брата". Ды і яна нас адпускаць не збіраецца, калі гаварыць шчыра. Мы хоць і слабыя ў параўнанні з Расіяй, але ўсё ж — абаронны шчыт для вялікай саюзнай дзяржавы. Шчыт, у які — не дай Божа! — на выпадак бяды паляцяць першыя стрэлы-ракеты.

Доля нашай краіны нялёгкая, але выбар у нас ёсць. У ім нельга памыліцца. Я не хачу, каб збыліся словы нашага прэзідэнта, які аднойчы неасцярожна сказаў двухсэнсоўную фразу, што беларусы будуць жыць бедна, але нядоўга.

Дай Бог, каб мы жылі багата і доўга. І — незалежна!

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ,**
**пісьменнік.**

# Я нічога не блытаю,

## або Яшчэ раз аб артыкуле "Фашизм — это когда..."

20 чэрвеня 1998 года "Народная воля" надрукавала водгук Яўгена Філіповіча на мой артыкул "Фашизм — это когда..." ("НВ" ад 21.05.98 г.). Я вельмі рады, што чытачы заўважылі мой матэрыял і разважаюць над яго зместам. Але мяне хвалюе тое, што пры гэтым не заўсёды улоўліваецца той сэнс, які закладзены мною ў артыкул.

Зразумела, асуджэнне фашызму як пачварнай з'явы зроблена даўно. Мая мэта была іншая. Улады на розных масавых мерапрыемствах, з трыбун, тэлевізійных экранаў усё часцей і часцей публічна называюць фашыстамі самых паважаных людзей краіны, якія знаходзяцца ў апазіцыі ўладзе. Гэтае ж падхопліваюць і паўтараюць ачмураныя афіцыйнай прапагандай людзі. Я на свае вушы чуў, як мужчына пенсійнага ўзросту называў Зянона Пазьняка "фашыстам, паліцаем". Я падышоў да яго і спытаў, як гэта мог Пазьняк быць паліцаем, калі ён нарадзіўся толькі ў 1944 годзе? У адказ субяседнік і мяне назваў недабітым фашыстам і паліцаем...

Асабіста для мяне такія людзі, як Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў, Юры Хадыка і другія — гэта сумленне і гордасць беларускай нацыі, што ўсведамляюць яшчэ далёка не ўсе суайчыннікі. Але будучыня скажа сваё слова.

Самі ўлады на словах асуджаюць фашызм і, як я ўжо казаў, да фашыстаў прылічваюць усіх апазіцыянераў. Гэта мы чулі і ў перадачы на НТВ "Герой дня без галстука".

Вось я і сабраў, як адзначыў Яўген Філіповіч, "усё тое пачварнае і жахлівае, што адбываецца ў краіне", каб давесці: менавіта тыя, хто вядзе краіну да бездані, зваліваючы ўласныя грахі на прыдуманых "ворагаў", вядуць вайну супраць уласнага народа і заслугоўваюць асуджэння. Ва ўладзе зараз знаходзяцца фактычна бальшавікі, камуністы — называйце іх як хочаце. А бальшавізм, камунізм, саветызм мае шмат агульных рысаў з фашызмам. Хаця сённяшнія кіраўнікі не называюць сябе бальшавікамі ці камуністамі, сутнасць ад гэтага не мяняецца.

Яўген Філіповіч не пагаджаецца са сцвярджэннем, што "фашизм — это когда притесняется и запрещается родной язык...". Ён лічыць, што "фашысты — гэта група людзей, аб'яднаных адной ідэяй. А ідэя гэта — узнясенне, усхваленне сваёй нацыі, свайго народа за кошт урону, страт другіх народаў". Атрымліваецца так, што раз гэтая група людзей не ўсхваляе свой народ, сваю мову, то і тэрмін "фашызм" тут не падыходзіць. Але ж справа ў тым, што гэта "група людзей" не лічыць беларусаў сваёй нацыяй, сваім народам, а беларускую мову сваёй мовай, Беларусь — сваёй краінай: "Іх адрас — не дом і не вуліца, іх адрас — Савецкі Саюз...".

Менавіта з гэтага боку я і падыходзіў да напісання артыкула. Ва ўладзе знаходзіцца "група людзей, аб'яднаных адной ідэяй — аднаўленне любымі шляхамі Савецкага Саюза, Расійскай імперыі. Не аднаразова даводзілася чуць па расійскім тэлеканале, калі першыя асобы Беларусі, робячы візіты ў расійскія рэгіёны, у сваіх прамовах там вымаўлялі фразы тыпу "мы — русские люди!, "мы — русский народ" і г.д. Яны не лічаць сябе беларусамі, і родная мова для іх — руская.

Вось мы і падышлі да лагічнага канца. "Група людзей", якая знаходзіцца зараз ва ўладзе, усхваляе "сваю нацыю", "свой народ" — гэта значыць рускую нацыю і мову. (Прашу не блытаць гэтае ўсхваленне з павагай, якая павінна існаваць у дачыненні да ўсіх нацый і моў.) І робіцца гэта "за кошт урону, страт другога народа", гэта значыць — за кошт беларусаў, за кошт Беларусі. Для гэтага і былі праведзены рэферэндумы 1995 і 1996 году. Так што, паважаны Яўген Філіповіч, я лічу, што ў выбары загалоўка да свайго артыкула я не памыліўся.

Асудзіць ідэалогію бальшавізму, камунізму, саветызму на ўзроўні Нюрнбергскага працэсу, на жаль, яшчэ не прыспеў час. На СНГоўскіх абшарах яе моц яшчэ вялікая. Вы ж бачыце, як нават у Расіі камуністычныя сілы, засеўшыя ў Дзяржаўнай думе і ў губернатарскіх крэслах, спрабуюць сарваць праводзенне рынкавых рэформ. І з якой пашанай прымаюцца на Беларусі расійскія "красные" губернатары і кіраўнікі старой закваскі, давёўшыя свае насельніцтва да галечы, свае губерніі да развалу, да занападу, як да гэтага даведзена і Беларусь. Гэтыя апантаныя абаронцы мінулага — прадстаўнікі самых розных народаў — аб'ядноўваюцца, вылучаюць сваіх полпотаў, хусейнаў, берыяў, борманаў, гебельсаў. Яны яшчэ прынясуць нам нямала бед. Нюрнбергскі суд для іх яшчэ далёка наперадзе.

Пакуль усё лепшае, усё прагрэсіўнае, гуманнае, дэмакратычнае, усё патрыятычнае і нацыянальнае праследуюць, душаць, арыштоўваюць, судзяць, штрафуюць, шальмуюць, абражаюць... Але ваша права, як і права кожнага, шаноўны Яўген Філіповіч, мець і выказваць сваю думку.

**Ілля КОПЫЛ, пенсіянер.**
**Мінск.**

"Беларуская перспектыва"

# АПАЗІЦЫЯ І ВЫБАРЫ

***На сёньняшні дзень два важныя, але амаль безадказныя пытанні стаяць перад беларускім грамадствам: што такое "беларуская апазіцыя" і што рабіць, калі ў краіне раптам будуць аб'яўлены выбары (прэзідэнцкія, парламенцкія, мясцовыя — любыя). Важнасць гэтых пытанняў даказваць не прыходзіцца, таму што ад іх у многім залежыць будучыня Беларусі. Безадказныя ж яны не таму, што ніхто не дае на іх адказу (наадварот, кожная партыя, якая хоць на нешта прэтэндуе ў сферы грамадска-палітычнага жыцця краіны, ужо даўно і не раз спрабавала выказацца з гэтай нагоды), а таму, што сапраўды незразумела, да якіх межаў можа пашырацца паняцце "беларуская апазіцыя".***

Апошнім часам многія партыі, якія залічаюць сябе да дэмакратычнага крыла, актыўна загаварылі пра свой магчымы ўдзел у будучых выбарах. Цікава, што такая актыўнасць пачалася тады, калі выбары яшчэ ніхто не прызначаў і, самае галоўнае, невядома, куды, у які орган і па якому закону выбіраць. Разам з тым палітычная апазіцыя, якая афармілася пасля "рэферэндуму" 1996 г., адназначна заявіла, што ўся яе дзейнасць будзе накіравана на аднаўленне дзеяння ў краіне Канстытуцыі 1994 г. і, значыць, ніякага супрацоўніцтва з парушальнікамі Асноўнага закона быць не можа. Палітычная сітуацыя не змянілася, але ўсё шырацца і шырацца заявы аб неабходнасці стварэння новай, "больш шырокай" ці "аб'яднанай" апазіцыі, выбараў адзінага лідэра і падрыхтоўкі да выбараў. "Перадвыбарчыя" актывісты не зважаюць нават на тое, што буйнейшы прадстаўнік апазіцыйнага лагера Беларускі народны фронт афіцыйна прыняў рашэнне не ўдзельнічаць у выбарах паводле "папраўленай" у 1996 г. Канстытуцыі, пацвердзіўшы папярэднія заявы "шырокай" апазіцыі і яшчэ раз паказаўшы сваю палітычную прынцыповасць. Больш таго, як сцвярджае Ю. Хадыка, ужо ўсе дэмакратычныя партыі "заявілі пра свой байкот любых выбараў паводле Канстытуцыі—96" (Народная воля, 13.05. 1998 г.).

Але, здаецца, гэта не зусім так. Заявы прадстаўнікоў розных палітычных партый, якія час ад часу з'яўляюцца ў прэсе, сведчаць аб тым, што некаторыя з іх (партый) гатовыя пайсці на ўдзел у тэарэтычна магчымых прэзідэнцкіх выбарах 1999 г. практычна на любых умовах. Галоўным тут аб'яўляецца тое, што, паводле Канстытуцыі 1994 г., выбары прэзідэнта павінны быць праведзены менавіта ў гэты час. Здаецца, што гэта лагічнае і зусім правільнае меркаванне. Але якога прэзідэнта выбіраць — кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады ці проста ні за што не адказнага дыктатара, паводле апошняга "варыянта" Канстытуцыі (не гаворачы пра выбарчы закон, выбарчую камісію і г.д.)?

Ствараецца ўражанне, што некаторыя партыі і палітычныя дзеячы, імкнучыся "змагацца з рэжымам у форме перадвыбарнай кампаніі", забываюць, што па свайму прызначэнню партыі не толькі так ці інакш уплываюць на фармаванне і дзеянне механізма палітычнай улады, але, што, магчыма, ёсць самае важнае, — аказваюць ідэалагічнае ўздзеянне на насельніцтва, на фармаванне палітычнай свядомасці людзей. І як бы ні хацелася якойсьці партыі ці пэўным лідэрам заявіць пра сябе ў палітычным жыцці краіны, яны проста абавязаны на першае месца ставіць агульныя інтарэсы, а толькі потым вырашаць свае вузкапартыйныя ці асабістыя. Сёння разам з размовамі пра неабходнасць прыняцця ўзгодненага рашэння аб будучых сумесных дзеяннях некаторыя палітыкі вельмі спяшаюцца паказаць прыклад нават палітычным партыям, спачатку ствараючы структуры з гучнымі назвамі і агульнадэмакратычнымі мэтамі, а потым заклікаючы далучацца да іх. Адным з апошніх такіх утварэнняў стала Садружнасць дэмакратычных сілаў (СДС). Хоць мэтай дзейнасці СДС заяўлена аднаўленне законнасці і дэмакратыі ў Беларусі, спосаб для яе ажыццяўлення выбраны даволі сумніўны — падрыхтоўка да прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў. Здаецца, што паспрыяць аднаўленню законнасці ў нашай краіне падобныя акцыі наўрад ці змогуць, затое дадуць магчымасць парушальнікам Канстытуцыі спаслацца на тое, што апазіцыя не толькі прызнала навязаныя краіне змены, але і сама пагаджаецца гуляць па правілах і па сцэнару уладаў.

Падаецца, што галоўнай памылкай дэмакратычных партый, якія выказваюць жаданне паўдзельнічаць у прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах, ёсць імі ж самімі запланаваная згода на "пэўныя ўступкі" рэжыму. Палітычна вельмі правільна паводзіць сябе якраз А.Лукашэнка, які старасцца не ўздымаць праблему выбараў. Жаданне ж некаторых апазіцыйных палітыкаў не толькі засведчыць сваё імкненне прыняць у іх удзел , але і спрабаваць "падказаць" уладам, як гэта лепш зрабіць, часам выглядае не зусім зразумела. Вядома, у кожнай партыі і кожнага палітыка могуць быць свае асабістыя меркаванні і планы, але тады зусім не абавязкова спасылацца на агульнанацыянальныя інтарэсы. Увогуле, пытанне правядзення любых выбараў трэба заўсёды звязваць з Канстытуцыяй 1994 г. — ніякія іншыя варыянты выбараў, акрамя як па гэтай Канстытуцыі, не павінны нават разглядацца. Тады ўзнікае самая простая і найбольш лёгка рэалізуемая схема і па прэзідэнцкіх, і па парламенцкіх выбарах. Адразу ўсім становіцца зразумела, калі, куды, як і пры дапамозе якіх структур праводзіць вылучэнне кандыдатаў і арганізоўваць галасаванне. Такі падыход будзе цалкам зразумелы і міжнароднай супольнасці, якая катэгарычна не прызнае вынікаў так званага "канстытуцыйнага рэферэндуму". Значна прасцей будзе тлумачыць сітуацыю і выбаршчыкам, якія вельмі тонка адчуваюць любыя спробы палітычнага прыстасавання і ідуць на падтрымку адкрытай палітычнай пазіцыі нават тады, калі не ва ўсім яе падзяляюць.

Пэўную вастрыню і пікантнасць у гэтай сітуацыі складае тое, што ў супрацьстаянні "улады — апазіцыя" ўсе выгады ад моманту першых публічных развагаў пра самую магчымасць выбараў да іх рэальнага правядзення атрымлівае толькі ўладны бок. І галоўнае тут — фактычнае прызнанне праз згоду на ўдзел у выбарах **усіх дзеянняў улады па змене заканадаўства**, у тым ліку і вынікаў "рэферэндуму" 1996 г. Аб гэтым шмат гаварылася, шмат пісалася, і ўсе выдатна разумеюць, якімі могуць быць наступствы ад такога супрацоўніцтва з рэжымам. Тое, што ў пэўных палітычных дзеячаў і арганізацый раптам рэзка змяніліся паводзіны і выказванні, можна растлумачыць чым заўгодна, толькі не тым, што яны не разумеюць таго, што робяць. Вынікам жа такой актыўнасці рана ці позна станецца адно — сапраўднае прызначэнне А. Лукашэнкам выбараў, але "ў адпаведнасці з патрабаваннямі грамадскасці". Не думаю, што хоць адзін сур'ёзны палітык пагодзіцца на балатаванне ў бяспраўную і неканстытуцыйную "палату". Тут без асаблівых доказаў выразна відаць, што ўдзел у падобных выбарах ёсць не проста фарс, а дыскрэдытацыя самой ідэі выбараў, сістэмы парламентарызму. Так што пытанне ўдзелу ці няўдзелу ў выбарах не па Канстытуцыі 1994 г. перарастае з проста тактычнага пытання пэўнай партыі ці асобы ў пытанне прынцыповае, пытанне не толькі пра адносіны да законнасці, але і пра маральнасць тых ці іншых дзеянняў. Як відаць, апошнім часам у некаторых палітыкаў і арганізацый прынцыпы мэтазгоднасці і пажаданасці пачынаюць пераважаць. Раней жа беларуская апазіцыя якраз і вылучалася сваёй прынцыповай адданасцю закону, не звяртаючы ўвагі на магчымыя персанальныя ці партыйныя выгады.

Чаму так адбываецца? На наш погляд, асноўная прычына якраз у празмернай "шырыні" ці залішняй "аб'яднанасці" апазіцыі. Ні ў якім разе не спрабуючы парушыць адзінства дэмакратычных сілаў Беларусі, усё ж адзначым адрозненне ранейшай (прыблізна да 1995 г.) апазіцыі, заснаванай на ідэі пабудовы незалежнай Беларускай дзяржавы, як на галоўным прынцыпе сваёй дзейнасці, ад "новай апазіцыі", шматлікая частка якой грунтуецца не столькі на якіх-небудзь ідэалагічных падставах, а ў многім, калі не ў большыні, на простым непрыняцці ўякасці прэзідэнта А. Лукашэнкі ці асабістай крыўдзе на яго. Сапраўды, рэдкі палітык, які тым ці іншым чынам развітаўся з прэзідэнцкай камандай, не станавіўся адразу "апазіцыянерам", а то і адным з лідэраў "новай апазіцыі". Палітыкі звычайна хутка і з разуменнем прымалі ў свой склад кожнага, хто зразумеў шкоднасць для Беларусі недэмакратычнай палітыкі А. Лукашэнкі. Простым жа людзям вельмі цяжка і цяпер усвядоміць, чаму той ці іншы былы прэзідэнцкі паплечнік пасля звальнення не толькі адразу становіцца дэмакратам, але і прэтэндуе на лідзіруючую ролю ўжо ў новым асяроддзі. Прынцып фарміравання "новай апазіцыі" вельмі маляўнічa і набліжана да рэальнасці сфармуляваў адзін з былых членаў прэзідэнцкай каманды Д. Булахаў: "Пажар у лесе — ваўкі бягуць разам з зайцамі. Ролю стыхійнага бедства цяпер выконвае прэзідэнт Лукашэнка, таму сапраўдная кансалідацыя рэальная тады, калі кіраўнік дзяржавы наступае". Хто ёсць маладыя ваўкі — добра вядома, як зразумела і тое, што з зайцамі яны бягуць часова, пакуль апошнія спрыяюць ім у супрацьстаянні з тым, хто выконвае ролю стыхійнага бедства.

Прагназаванне — справа няўдзячная, але нам здаецца , што "сумесны бег" будзе доўжыцца якраз да першай магчымасці прыняць удзел у выбарах. Вельмі хацелася б, каб прагноз аказаўся няспраўджаным, але ўсе папярэднія назіранні паказваюць на актыўнае жаданне якраз новай апазіцыі вызначыцца падчас якіх-небудзь выбараў. Шкада, але ўжо пачаліся разборкі па перадвыбарчай тэматыцы сярод самой апазіцыі. І не проста ўнутры апазіцыі, а на старонках дэмакратычных газет. (Улады павінны быць удзячны апазіцыйнай прэсе за своечасовую і сістэматызаваную пастаўку інфармацыі аб планах і меркаваннях палітычных апанентаў.)

Першынство ў справе "аб'яднання" і вылучэння адзінага лідэра — будучага кандыдата ў прэзідэнты займае Грамадзянская партыя. Здаецца, аднак, што спроба злучыць увесь дэмакратычны рух атрымаецца ў яе толькі пасля выпрацоўкі агульнапрымальнага рашэння для самой партыі. Падобна на тое, што і праблема з прэтэндэнтамі на вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты мае такі ж характар (па ўсіх звестках, такіх прэтэндэнтаў толькі сярод кіраўніцтва партыі некалькі).

Другое месца, але ўжо ў справе тлумачэння важнасці і неабходнасці як правядзення новых выбараў, так і ўдзелу ў іх, па праву займае сацыял-дэмакратычная партыя "Народная грамада". Адметнасць заяў прадстаўнікоў гэтай партыі ў іх няўзгодненасці і шматварыянтнасці (М. Статкевіч, В. Малашка, У. Нісцюк). Галоўнае тут, здаецца, — спроба пакрытыкаваць па традыцыі БНФ, паказаць значнасць сваёй партыі і, у канчатковым выпадку, прыняць рашэнне аб самастойным удзеле ў выбарах. Тое, што "Народная грамада" будзе ўдзельнічаць у выбарах нават пры прыняцці большасцю дэмакратычных арганізацый рашэння аб няўдзеле, — вельмі верагодна. Партыі вельмі трэба засведчыць сваё існаванне і адметнасць (пра што неаднойчы гаварылі яе лідэры). Да таго ж у партыі добрым тонам стала хоць нешта рабіць насуперак Народнаму фронту, каб "не зліввацца" ў вачах выбаршчыкаў.

Мяркуем, што камуністы, якія то ўваходзяць, то не ўваходзяць у самую шырокую апазіцыю, у выбарах будуць удзельнічаць і, хутчэй за ўсё, без выстаўлення якіх-небудзь папярэдніх умоваў.

Такім чынам, дзякуючы некаторым палітычным партыям і асобным дзеячам А. Лукашэнка можа атрымаць, а ў пэўнай ступені ўжо атрымаў, магчымасць маніпулявання сітуацыяй, звязанай з выбарамі, прычым са спасылкай не проста на грамадскасць, а на заявы палітычных арганізацый, якія залічваюць сябе да апазіцыі. Самае небяспечнае тут тое, што па пытанню адносінаў да выбараў можа адбыцца, і хутчэй за ўсе адбудзецца, падзел ці раскол агульнай апазіцыі. Гэтага якраз і чакае рэжым — калі выбары па зменёнай А. Лукашэнкам Канстытуцыі Беларусі адбудуцца пры падтрымцы ці згодзе хоць адной партыі, якая залічвала сябе да апазіцыі, — гэта будзе лічыцца прызнаннем вынікаў "рэферэндуму" 1996 г. з усімі наступствамі.

(глядзі далей на 4-ай бач.)

**Паважаныя чытачы "Беларускага Дайджэсту"! Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты...**



(працяг з 3-ае бач.)

Досвед апошніх гадоў палітычнага жыцця Беларусі паказвае, што ў адносінах з рэжымам перамогу можна здабыць толькі з пазіцыі захавання Канстытуцыі 1994 г. і правядзення любых выбараў толькі ў адпаведнасці з ёю; у адваротным выпадку не будзе ўжо і самой апазіцыі. Любая ўступка, любое супрацоўніцтва, чым бы яно ні тлумачылася, ёсць адмова ад Канстытуцыі.

Дэмакратычнай апазіцыі нельга ні ў якім разе паніжаць, тым больш уласнаручна, планку змагання за канстытуцыйную законнасць у краіне. Прызнанне таго, што восенню 1996 г. у краіне адбыўся антыканстытуцыйны, антыдзяржаўны пераварот, павінна заставацца асновай яе дзейнасці. Гэта значыць, што першым, асноўным і галоўным патрабаваннем, найперш у пытанні пра выбары, павінна быць патрабаванне поўнага аднаўлення дзейнасці Канстытуцыі 1994 г. Правядзення ж тых ці іншых выбараў павінна запатрабаваць ад узурпатара ў першую чаргу не ўнутраная апазіцыя, а міжнародная супольнасць, якая без выбараў не прызнае нявыбранага “прэзідэнта”, як не прызнала вынікаў ягонага “рэферэндуму”. Несумненна, што на гэта зверне ўвагу і электарат. Натуральна адно, што ўступаць па сваёй ініцыятыве ў якую б то ні было гульню з Лукашэнкам па яго правілах і на ягоным полі — гэта амаль адразу праграмаваць сябе на паражэнне. Галоўнае ж тое, што апазіцыя ў такім выпадку не толькі ўхваліць усе дзеянні Лукашэнкі, але і будзе спрыяць умацаванню яго легітымнасці. А мы ўсе бачылі, што беларускае грамадства сёння больш згодна падтрымаць і давяраць палітыку, якога ўспрымае як легітымнага, нягледзячы, напрыклад, на незаконнасць яго знаходжання на пасадзе.

Сумніўна, што “шырокая апазіцыя” зможа прыняць нейкае агульнае рашэнне адносна магчымых выбараў, а тым больш выканаць яго. Магчыма, гэта і добра. Выбарчую кааліцыю дэмакратычных сілаў Беларусі на сённяшні дзень стварыць немагчыма, як нельга аб’яднаць праграмы розных палітычных сілаў. Стварэнню ж і ўмацаванню шматпартыйнай сістэмы такая сітуацыя павінна паспрыяць. І невядома яшчэ, чыю пазіцыю падтрымае выбаршчык, калі ён увогуле прыйдзе на выбары. Затое высветліцца пазіцыя кожнай апазіцыйнай партыі, яе вага ў грамадстве.

**Валянцін ГОЛУБЕЎ.**

## Connecting Hearts

My heart seems to wander
Often throughout these days,
To a land where loss and hardship
Envelop each day.

To a people proud with loss so severe,
Who rise and go on, day to day, year to year.
The devastation of a country so rich and so clean,
Destroyed for lifetimes, once so lush, now so lean.

Children of innocence robbed once more,
Caught in the fragments of the rawness galore.
Held back by poverty, illness and destruction of land,
Cry out to mankind “Please grasp our hands”.

Children of Chernobyl we hold you tight,
WE strive for a difference with all of our might.
We welcome you here in our hearts and our homes,
We cherish you, we care, you are never alone.

To see you here far removed from your plight,
Helps us to stand tall, continue our flight,
To make a difference for you while your here,
Cementing the bonds that go on year to year.

You see you are never really far away,
For we carry your eyes, your smiles and your waves.
We hold them secure deep within our heart,
Chernobyl Children, we will not part!

**Sue Walsh-Canadian Host Mom-98**



# Што такое сучасны фашызм і наколькі ўласцівы ён Беларусі?

**або вынікі кіравання краінай на аснове няведання, неразумення і неадольнага імкнення А.Р.Лукашэнкі ўкараніць свае светапогляды ў яе жыццядзейнасць**

«ПАГОНЯ»

Слова «фашызм» усё часцей і часцей выкарыстоўваецца ў беларускім, расійскім друку і сродках масавай інфармацыі далёкага замежжа. Пры гэтым нярэдка з розным, нават, супрацьлеглым значэннем. Адзначанае адбываецца таму, што сутнасць фашызму мянялася. А зараз яна не адпавядае як свайму першапачатковаму, так і Гітлерам нададзенаму значэнню. У выніку ўжо даўно напрошваецца неабходнасць аналітычнага разгляду гэтай складанай, зноў пагражальнай грамадству з’явы.

Гэты артыкул быў пададзены ў «Народную волю». Але там накладзена табу на крытычныя погляды адносна мінулай дзейнасці С.Шушкевіча, М.Грыба, С.Шарэцкага. Але ж сучаснае - каранямі ў мінулым, будучае - на плячах у сучаснага. Значыць, калі не аналізуеш мінулае, то нельга будаваць станоўчае сучаснае і выбіраць стваральны шлях у БУДУЧАЕ. Спадзяюся, што рэдакцыя ПАГОНІ зразумее мяне і надрукуе прадстаўлены артыкул. Думаю, што ні Шушкевіч, ні Грыб, ні Шарэцкі не пакрыўдзяцца, бо зараз іх дзейнасць пазбаўлена ранейшых памылак.

### *1. Прарыў да прэзідэнцкай улады А.Р.Лукашэнкі і яго вынікі*

Дэмакратыя толькі тады дае станоўчыя вынікі, калі ствараe ўмовы пабіраць для Вярхоўнага кіраўніцтва грамадствам тых, хто мае поўныя асабістыя якасці і здольнасці забяспечыць яго жыццядзейнасць на аснове прынцыпаў Сукупнага Розуму і Гуманізму, памножаных на дзейсны клопат аб захоўванні жыцця на Зямлі, аб станоўчым сучасным і стварэнні ўмоў для лепшага прагрэсіўнага будучага ўсім нашым нашчадкам. Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у чэрвені-ліпені 1994 года ў нас такіх умоў не было па агульнаму стану грамадства, створанаму працяглымі неспрыяльнымі для Беларусі гістарычнымі з’явамі. Тады ў другім туры ў якасці прэтэндэнтаў засталіся В.Кебіч, які меў намер знішчыць карані беларускасці адразу, і А.Лукашэнка. Яго душэўныя якасці былі настолькі выразнымі, што за дзень да другога туру выбараў я пісаў: «Калі ж праўвецца ў прэзідэнты ўпарты, імпульсіўны, неўраўнаважаны, хваравіта прагны да ўлады, паўярхоўны, у якойсьці меры абмежаваны культурай і надзелены агрэсіўнасцю А.Лукашэнка, з такой жа камандай, то расплата наша будзе яшчэ большай. Мы ў галоўным будзем адкінуты далёка назад. І, магчыма, надоўга. Абноўлены бальшавізм прынясе блытаніну, падазронасць, новыя прыніжэнні, абноўленыя элементы бессаромнасці, узаемную варожасць, гвалт і закрые шлях для яднання народа пад гуманнай Беларускай ідэяй, якая больш чым далёкая ад агрэсіўнага нацыянал-сацыялізму і рускага шавінізму». («Звязда» ад 9.7.1994 г.). Таму я раіў сказаць рашучае «Не!!!» абодвум кандыдатам і больш удумліва пашукаць новых кандыдатаў у глыбіні гушчы народнай, разумней арганізаваць перадвыбарныя спаборніцтвы. Але ж заставаліся толькі адны суткі на роздум. Ды і артыкул той змаглі прачытаць нямногія па прычыне абмежаванасці тыражу «Звязды». І адбылося тое, што можна ахарактэрызаваць словамі: маё прадбачанне аказалася даволі мяккім у параўнанні з рэчаіснасцю, якая наступіла. Практычна пачалося тое, чаго яшчэ і свет не бачыў: прэзідэнт краіны распачаў мэтанакіраваны ўпарты наступ на самастойнасць дзяржавы, якой кіраваў; на этнічныя асновы яе народа; на яго мову; на ўсё тое гістарычнае мінулае беларусаў, што было звязана з прыродай ім дадзенай і жыццёвымі ўмовамі дапоўненай самабытнасцю, з перыядамі дзяржаўнай незалежнасці, з Адраджэннем і ўмацаваннем таго мінулага, з правамі беларусаў не толькі людзьмі звацца, але і быць імі. Гістарычна прыгнечаны, або працяглы час апалонены, беларускі народ таго не чакаў. Ён, як у свой час і нямецкі народ у адносінах да Гітлера, працягваў верыць у добрыя памкненні А.Лукашэнкі. Нешматлікія прадстаўнікі нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, поўнасцю разгромленай у часы панавання савецтызму, апынуліся ў стадыі ізаляцыі, паралізаванасці хвалямі бруду і хлусні.

### *2. Недахопы служэння справам беларускасці з боку спікераў Вярхоўнага Савету С.Шушкевіча, М.Грыба, С.Шарэцкага.*

Што б яны ні казалі, але свядомасць кожнага з іх была моцна засмечана поўнымі дагматамі ядавітай часткі савецтызму. Таму не было ў іх дастатковага разумення неабходнасці безумоўнага служэння наступным першасным святыням Беларусі:

- Захаванню і ўмацаванню самастойнай беларускай дзяржаўнасці без усялякіх братэрскіх славянскіх саюзаў. Бо, як паказвае гісторыя, пачыналіся тыя саюзы заўсёды ў выглядзе «роўных з роўнымі», а заканчваліся паланеннем Беларусі. Сучасная ж інтэграцыя з «вялікім рускім народам» (у прапорцыі: адзін беларус і 15 паглынальных рускіх) можа закончыцца толькі поўным і ўжо канчатковым уваходжаннем нашай Радзімы ў склад Расіі. Тады з кожнага нашага дзіцяці «з маленства будзе выхоўвацца халоп для новай імперыі і яе ненасытных апетытаў» на «Усходзе і Захадзе, на Поўначы і Поўдні» («Народная воля» ад 3.10.1997 г.).

- Зберажэнню і развіццю асноў самабытнасці беларускага этнасу з яго мовай і сукупным характарам, якія закладзены зыходна прыродай і дапоўнены Гісторыяй, а зараз пастаўлены на мяжу поўнага знішчэння праз канчатковую русіфікацыю. Яна навязваецца нам выцясненнем з ужытку Беларускай мовы, штурханнем нас праз злачынныя рэферэндумы на этнічнае самазабойства. Але ж гэтага Гісторыя (Вялікі стваральнік і фіксатар падзей) ніколі нам не даруе. Бо этнасы створаны Боскімі сіламі невыпадкова. Выбіванне з таго прыродай створанага гарманічнага ланцуга 12 мільёнаў беларусаў стане вялікай шкодай для ўсіх людзей свету.

- Стварэнню і ўмацаванню на аснове каранёнага беларускага этнасу, беларускай нацыі як дзяржаўнай еднасці нашага грамадства, заснаванай на карэнным этнасе. Бо калі не будзе нацыі, то не стане і самастойнай дзяржавы.

- Перагляду сутнасці слова «нацыяналізм». Бо ён - не ганебная з’ява, як нас пераконваюць, а ахоўнае пачуццё, закладзенае прыродай у свядомасць кожнага нармальнага чалавека. Для зберажэння свайго этнасу і сваёй нацыі, іх станоўчай жыццядзейнасці з павагай правоў на тое ж прадстаўнікоў іншых этнасаў і нацый. Пры знікненні гэтага пачуцця знікнуць этнасы і нацыі як аснова для самаўдасканалення (праз дабразычлівае спаборніцтва) усяго чалавецтва. Выбіццё нацыянальнай самапавагі з беларусаў раўназначна іх этнічнаму знішчэнню.

- Выхаванню ў людзей павагі да самастойных гістарычных набыткаў беларускага народа, да неабходнасці захавання сваёй уласнай гістарычнай памяці з самастойным аналізам мінулага, сучаснага і выбарам шляхоў у будучыню. Бо ўсюды, дзе няма станоўчага мінулага, няма і шляхоў у будучыню.

- Распрацоўцы асноў суадносін паміж уласна нацыянальным і агульначалавечым у жыццядзейнасці наогул, а ў адукацыі - у асаблівасці, на аснове прынцыпу: праз нацыянальнае - да агульначалавечага, ад агульначалавечага - да нацыянальнага. Толькі ў гэтым выпадку можа захоўвацца, як скарбніца, прыродная самабытнасць народаў і падмурак іх гарманічнага развіцця.

- Выхаванню ў людзей павагі да прадстаўнікоў уласнай нацыянальнай эліты, адчування неабходнасці стварэння ўмоваў для яе зберажэння і развіцця. Бо яна - мозг нацыі. Ад яе якасцяў залежыць у дзяржаве, у этнасе ўсё. Адзначанае патрабуе ўзмоцненай увагі. Таму што заўжды, асабліва з часоў Сіміёна Полацкага, беларускі інтэлект высмоктваўся Заходнімі ці Усходнімі «братамі».

- Уздыму духоўнасці народа як асновы чалавечай сутнасці ў кожным з нас. Бо чалавек - гэта фізічная абалонка для душы, якая з улікам умоў, якія склаліся, фарміруе светапогляды і накіроўвае яго дзеянні. Аналагічнае ўласціва і Сукупнай Душы народа. Таму эканоміка пры аднолькавых іншых умовах - вынік духоўнасці. Абыякавая або злачынная духоўнасць не можа ствараць добрую эканоміку.

- Самастойнаму ганароваму ўваходжанню Беларусі ў агульначалавечую цывілізаваную супольнасць. І толькі без саюза з Расіяй. Бо там - «террор родителей в отношении детей имеет масштабы национальной катастрофы» («Комсомольская правда», 30.01.1998 г.); «зарезать могут прямо на уроке» («Комсомольская правда», 28.01.1998 г.); «больным станет ещё хуже» («Известия», 21.02.1998 г.); «кубанский губернатор провозгласил воинственный антисемитизм целью молодёжной политики» («Известия», 04.03.1998 г.). У.В.Жырыноўскі ў адкрытую ганарыцца тым, што «готовил третью мировую войну» «и употреблял жёсткие выражения» - ... «твою мать» («Комсомольская правда», 20.02.1998 г.); «Госналогслужба, требуя с россиян сдать в казну всё до копейки... втихаря облегчила государственный сундук» толькі па аднаму каналу «на 500 тысяч долларов» («Комсомольская правда», 24.02.1998 г.); «температура российской армии (у якой прыйдзецца служыць нам, беларусам. - **Аўт.**) приближается к точке кипения» («Комсомольская правда», 03.03.1998 г.); «от службы в армии за последние три года уклонились от 40 до 70 процентов призывников... и действует более 60 организаций, помогающих призывникам уклониться от службы» («Труд-7», 26.09.1997 г.); семь десятилетий были борьбой коммунистического режима силами его карательных органов с собственным народом («Известия», 20.12.1997 г.); ставіцца пытанне:» «болел ли Ильич (Ленін. - **Аўт.**) дурной болезнью» («Аргументы и факты» N4 1998 г.); «уничтожая храмы, коммунисты за Христа выдавали Ленина, которого... нельзя убить, ибо... он сросся с пролетариатом» («Комсомольская правда, 25.10.1997 г.); як лічыць нават сам Цімур Гайдар «за все наши достижения -миллионы погибших от голода, миллионы расстрелянных»... «танками давили своих братьев в Польше, Венгрии, Чехословакии» («Комсомольская правда, 22.10.1997 г.); «как считают аналитики, было истреблено не менее 100 миллионов социально самых активных людей - кулаки, подкулачники, интеллигенция, городской деловой люд» («Труд-7», 26.09.1997 г.); «по признанию Генерального прокурора Юрия Скуратова... в год свершается 26 280 убийств (без Чачні. - **Аўт.**), разбойных нападений - 35 040, грабежей - 113 880,

# Беларуская нацыянальная ідэя: гістарычны аспект і сучасныя праблемы

Уладзімір КОНАН

ЛіМ

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ ёсць духоўна-творчы аналаг гістарычнага быцця народа ў яго трох вымярэннях — мінуўшчыне, сучаснасці і будучыні. Кожны этнас, які выявіў свае творчыя магчымасці і сфармаваўся ў нацыю, увасабляе сваім быццём пэўную ідэю, альбо, кажучы тэалагічна, пэўную задуму Сусветнага творца, якая рэалізуецца ў гістарычных дзеях народа і яго самабытнай культуры.

Ёсць па меншай меры тры грані выяўлення нацыянальнай ідэі народа: яго гістарычныя дзеі і геапалітычныя праекты, нацыянальны характар ва ўсіх яго супярэчнасцях, урэшце, самабытнасць яго культуры, уключаючы ў гэтае паняцце эканоміку, сацыяльна-палітычныя структуры, літаратуру ды іншыя віды мастацтва, філасофію, рэлігію, мараль і прававыя інстытуты. На тэарэтычным (розумаспасцігальным) узроўні нацыянальная ідэя выяўляецца ў культурна-гістарычным тыпе народа, яго нацыянальнай асабістасці; на штодзённа-эмпірычным узроўні — у нацыянальным менталітэце.

Праблема нацыянальнай ідэі, такім чынам, ахоплівае ўсе тры аспекты быцця народа — яго гісторыю, геапалітыку і культуру ў самым шырокім значэнні гэтага паняцця. Нацыянальную беларускую ідэю ў яе пэўнасці можна было б раскрыць толькі ў фундаментальнай манаграфіі. У гэтым кароткім рэфераце абмяжуюся лаканічнымі тэзісамі.

Геапалітычныя і агульналюдскія аспекты гэтай праблемы раскрыты ў філасофіі, этналогіі, літаратуры і публіцыстыцы XX стагоддзя (У. Салаўёў, М. Данілеўскі, К. Ляонцьеў у Расіі, О. Шпенглер у Германіі, "Наша Ніва", перыядычны друк Беларускай Народнай Рэспублікі ў Беларусі, Ігнат Канчэўскі, Уладзімір Самойла і Адам Станкевіч разам з яго сябрамі па Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў Заходняй Беларусі). Можна вывесці агульную парадыгму гэтага універсальнага ўсведамлення нацыянальнай ідэі. Вось яна ў няпоўным вызначэнні.

Кожны гістарычны народ мае сваю ўласную задачу, сваю ідэю. Кожны народ, які выявіў гэтую ідэю ў гістарычных дзеях і ў самабытнай культуры, мае права на арганізацыю ў суверэнную нацыю і незалежную дзяржаву. Задача нацыянальнай дзяржавы — стварыць аптымальныя ўмовы для самарэалізацыі народа ў самабытнай мове і культуры ў цэлым, стварыць сваю непаўторную грань рэгіянальнай і універсальнай цывілізацыі. Агульналюдская культура рэалізуецца як сугучнасць, сімфонія нацыянальных і рэгіянальных культур. Аднатыпная агульналюдская культура, калі б яна была магчымая, аказалася б ні чым іншым, як разбурэннем духоўнай самабытнасці так званых "меншых" народаў псеўдамесіянскімі імперыямі іхніх "большых" братоў.

Сёння сістэматычна пакуль што даследавана руская, дакладней, расійская ідэя ў навукова-папулярнай кніжцы М. Бярдзяева "Русская идея" (Парыж, 1946). Яе варта грунтоўна ведаць беларускім палітыкам, каб дакладна вызначаць свае геапалітычныя і культурна-творчыя стратэгічныя інтарэсы. Прывяду тут толькі агульную характарыстыку "расійскасці" Бярдзяевым: "Рускі народ, — пісаў Бярдзяеў, — ёсць у найвышэйшай ступені палярызаваны народ, ён — сумяшчэнне супрацьлегласцяў (...). Рускі народ не ёсць ні чыста еўрапейскі, ні чыста азіяцкі народ. Расія — цэлая частка свету, вялізны Усход—Захад, яна злучае два светы. І заўсёды ў рускай душы змагаліся два пачаткі — усходні і заходні (...). Рускі народ не быў пераважна народам культуры ў першую чаргу, як народы Заходняй Еўропы, ён быў пераважна народам адкравенняў і натхненняў, ён не ведаў меры і лёгка ўпадаў у крайнасці (...). Два супрацьлеглыя пачаткі леглі ў аснову фармацыі рускай душы: прыродная, язычніцкая, дыянісійская стыхія і аскетычна-манашае праваслаўе. Можна адкрыць дзве палярныя ўласцівасці ў рускім народзе: дэспатызм, гіпертрафія дзяржавы і анархізм, вольнасць; жорсткасць, схільнасць да гвалту — і дабрыня, чалавечнасць і мяккасць; абрадавая вера ("обрядоверье") — і пошукі праўды; індывідуалізм, вострае ўсведамленне асабістасці — і безасабовы калектывізм; нацыяналізм, бахвальства — і універсалізм, усечалавечнасць; эсхаталагічна-месіянская рэлігійнасць — і вонкавая набожнасць; шуканне Бога — і ваяўнічая бязбожнасць; пакорлівасць — і нахабства, рабства — і бунт".

Сёння "Русская идея" М. Бярдзяева надзвычай папулярная ў асяроддзі расійскай эміграцкай інтэлігенцыі: там па радыё "Свабода", здаецца, ужо пяты год Барыс Парамонаў вядзе аднайменную філасофска-публіцыстычную праграму. На жаль, мала хто ведае прарока беларускага нацыянальнага Адраджэння, які за трыццаць пяць гадоў да выхаду ў свет "Русской идеи" Бярдзяева апублікаваў пад псеўданімам Ігнат Абдзіраловіч філасофскае эсэ "Адвечным шляхам: Даследзіны беларускага светапогляду" (Вільня, 1921). Гэта быў малады паэт Ігнат Канчэўскі, якога напаткаў трагічны лёс Максіма Багдановіча (памёр на 27-й вясне свайго жыцця ад сухотаў).

І. Канчэўскі на аснове філасофскага абагульнення духоўнага вопыту нашай літаратуры даволі дакладна вызначыў сутнасць беларускай ідэі. Ён пісаў: "Беларусь ад X веку да гэтай пары (маецца на ўвазе 1921 год. — **У. К.**) фактычна з'яўляецца полем змагання двух кірункаў еўрапейскай, пэўна — арыйскай культуры — заходняга і ўсходняга. Граніца абодвух уплываў, падзяляючы славянства на два станы, праходзіць праз Беларусь, Украіну і хаваецца ў балканскіх краях. Дзесяцігадовае ваганне сведчыць аб тым, што беларусы, як украінцы і балканскія славяне, не маглі шчыра прылучыцца ні да аднаго, ні да другога кірунку".

Паводле І. Канчэўскага, беларуская ментальнасць, альбо наша нацыянальная ідэя — гэта адмаўленне крайніх, "месіянскіх" формаў усходняга "візантызму" (унітарнасць грамадска-палітычнага жыцця, нецярпімасць да іншадумання, канцэнтрацыя ўлады ў адных руках, абшчыннасць і слабае выяўленне асабістасці, татальны экспансіянізм) і заходняга індывідуалізму (бо ў ім прыхавана тэндэнцыя да захопу ў сваю зону ўплыву слабейшых народаў ды іх асіміляцыі), і сінтэз лепшых бакоў гэтых двух культурна-гістарычных тыпаў на аснове самабытных нацыянальных формаў грамадскага жыцця і культуры. Сутнасць яе — няспынная творчасць, непрыманне раз і назаўсёды вызначаных, аб'ектызаваных і дэгуманізаваных ідэй і прынцыпаў, накшталт "сацыялізму" альбо "капіталізму".

У гістарычным плане ўвасабленнем беларускай нацыянальнай ідэі былі выдатныя дзяржаўныя нацыянальна-культурныя і рэлігійныя дзеячы Беларусі. Полацкі князь Усяслаў Чарадзей быў не толькі вялікім князем і палкаводцам, але аб'ектыўна і прарокам: ён, верагодна, прадбачыў гістарычны лёс беларуска-крывіцкай дзяржавы, імкнуўся ваеннымі і дыпламатычнымі сродкамі забяспечыць яе незалежнасць і выгаднае геапалітычнае становішча — ключавыя пазіцыі на "шляху з варагаў у грэкі", што злучаў паўночную і цэнтральную Еўропу з Візантыяй, а праз яе — з цэнтрамі азіяцкай цывілізацыі. Яго прадаўжальнікам у гэтым плане быў канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега (1557—1633), які прадбачыў небяспеку станаўлення Расійскай захопніцкай імперыі і спрабаваў нейтралізаваць яе — спачатку смелым геапалітычным праектам стварэння супердзяржаўнай канфедэрацыі Масковіі-Расіі і Рэчы Паспалітай, палітычным ядром якой стала б Беларусь-Літва, а пазней — стварэннем "смуты" ў Расіі.

Яшчэ да канцлера Сапегі беларускі асветнік і славянскі першадрукар Францішак Скарына недзе ў сярэдзіне 1520-х гадоў, верагодна, паспрабаваў ажыццявіць сваю маскоўскую місію — пашырыць сваё вольнае кнігавыдавецтва на Маскоўскую дзяржаву і праз гэта забяспечыць прыярытэт старабеларускай мовы, а праз яе і ўсёй беларускай культуры ва ўсходнеславянскім рэгіёне. Няўдача гэтай місіі (спальванне "ератычных" кніг Скарыны і выгнанне першадрукара з Масквы) азначала, між іншым, нарастанне ідэалагічнай канфрантацыі паміж двума цэнтрамі аб'яднання ўсходнеславянскіх народаў — Масквой і Беларуссю-Літвой. Зусім верагодна, што калі б місія Ф. Скарыны, а пазней геапалітычны праект Льва Сапегі ўдаліся, калі б адбылася ў XVI—XVII стст. гэтая духоўная і палітычная сустрэчы Усходу і Захаду, то яна падрыхтавала б пазней павольную стыкоўку і пазітыўнае ўзаемадзеянне двух культурна-гістарычных тыпаў — расійскай Еўра-Азіі з Цэнтральнай і Усходняй Еўропай.

У духоўна-рэлігійным аспекце беларуская ідэя самабытна выявілася ў праектах сусветнай царкоўнай Уніі XV-XVI стст., якія часткова рэалізаваліся ў рэгіянальнай Брэсцкай Уніі 1596 года. Яна праіснавала каля двух з паловай стагоддзяў, стаўшы па сваёй сутнасці беларуска-сялянскай царквою, трэцяй духоўнай сілаю паміж нацыяналізаванымі ў XVII—XVIII стст. расійскім праваслаўем і польскім каталіцтвам. Яркімі асобамі, якія ўвасаблялі гэтую рэлігійную ідэю, былі мітрапаліты Іпат Пацей у 1599—1613 гг., Язэп Руцкі ў 1613—1637 гг. і полацкі архіепіскап Ісафат Кунцэвіч, які стаў ахвярай сваёй ідэі яднання цэркваў падчас віцебскага антыуніяцкага бунту ў 1623 годзе.

Прадаўжальнікамі дзяржаўна-палітычнай і духоўна-культурнай беларускай ідэі ў эпоху станаўлення беларускай нацыі (XIX — пачатак XX ст.) былі Кастусь Каліноўскі (1838—1864), беларускія народнікі Ігнат Грынявіцкі і выдаўцы падпольнага часопіса "Гоман" (1884), Беларуская Сацыялістычная Грамада (БСГ, 1903—1917), газеты "Наша Ніва" (1906—1915) і "Гоман" (1916—1918), беларуская класічная літаратура (Янка Купала, Цётка, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Максім Гарэцкі і іх паслядоўнікі). Урэшце, дзеячы БНР паяднаплі духоўна-культурнае і дзяржаўна-палітычнае адраджэнне і ў 1917—1920 гг. часткова рэалізавалі беларускую нацыянальную ідэю. Як няўдача, падзел Беларусі паводле Рыжскага міру Расіі і Польшчы былі вынікам стратэгічнага і духоўнага праліку аб'яднанай Еўропы ў асобе Антанты: яна падтрымала менш развітыя нацыянальныя ідэі народаў Цэнтральнай Еўропы (этнічнай Літвы, Латвіі, Эстоніі і інш.), без усякага ўліку культурна-гістарычнай традыцыі і геапалітычных інтарэсаў дазволіла бальшавікам і прыхільнікам Вялікай Польшчы падзяліць Беларусь.

З гэтага часу пачаўся новы, драматычны шлях духоўнай барацьбы беларускай нацыянальнай эліты за адраджэнне Беларусі ў новых умовах — апошняга этапу распаду тэрытарыяльных імперый. Беларуская нацыянальная эліта ў БССР у гады беларусізацыі (1920-я гады) правільна разлічыла, што аднаўленне Расійскай імперыі ў вобліку СССР — з'ява часовая, несумяшчальная з гістарычным прагрэсам, вынікам якога стаў распад імперый, гэтых "вавілонскіх вежаў" Новай гісторыі. Але яны змагаліся за Беларусь і яе культуру ў гады часовага абнаўлення гэтай імперыі, а не яе заняпаду. У выніку наша эліта была знішчана, а рэшта яе падаўлена бальшавіцкім імперыялізмам з няведанай у гісторыі жорсткасцю і скрытасцю ад сусветнай інфарматыўнай прасторы. Аднак паўразбуранае гвалтоўнай індустрыялізацыяй і калектывізацыяй этнічнае ядро беларускай нацыі ў сярэдзіне XX ст. яшчэ захавалася: яно нараджала з сябе новую нацыянальную эліту, якая ў рэшце рэшт агульнымі намаганнямі з нацыянальнымі элітамі іншых народаў разбурыла гэтую апошнюю Вавілонскую Вежу.

Настаў час усеагульнага нацыянальнага адраджэння ў складаных умовах, калі аказалася разбураным ужо само этнічнае ядро нацыі. У такіх умовах узросшая колькасна нацыянальная эліта сама павінна хоць часткова кампенсаваць адсутнасць згуртаванага этнічнага ядра.

Сёння нацыянальнае адраджэнне ёсць гістарычнае прызначэнне ўсіх народаў, якім не наканавана знікнуць у "чорнай дзірцы" гісторыі. Для былых заваяваных альбо "добраахвотна" далучаных народаў-"саюзнікаў" (тэрмін, які прыдуманы яшчэ ў Рымскай імперыі для вызначэння мірных, часова небунтоўных калоній) нацыянальнае адраджэнне ёсць багадатная альтэрнатыва гістарычнай анігіляцыі. Але і для народаў-метраполій, для імперскіх нацый яно таксама ёсць пазітыўны варыянт вырашэння спрадвечнага пытання — быць альбо не быць.

Жанр кароткага рэферата не дазваляе мне аргументаваць гэтую, на мой погляд, відавочную ісціну. Напомню толькі, што стабільнасць нацыі забяспечваецца, па-першае, яе трывалым этнічным ядром і, па-другое, яе духоўна актыўнай і сацыяльна пасіянарнай элітай. У народаў, пазбаўленых паўнацэннай нацыянальнай дзяржаўнасці, духоўная эліта і этнічнае ядро (яно больш устойлівае толькі ў эпоху неглыбокай сацыяльнай мабільнасці і павярхоўнай уключанасці народа ў пануючую "дзяржаўную" культуру) разбураюцца шляхам планамернага расцярушвання на абшарах імперыі, эміграцыі і асабліва метадамі дэнацыяналізацыі. А на адваротным полюсе аналагічная дэстабілізацыя адбываецца ў асяроддзі метраполіі: актыўная частка насельніцтва і нацыянальная эліта самарассейваюцца на абшарах далучаных іншанацыянальных тэрыторый, эканамічныя і духоўныя сілы трацяцца на ўтрыманне імперыі (войска, дзяржаўны апарат, культуртрэгерства і інш.), адзіная нацыянальная мова распадаецца на каланіяльныя жаргоны, эканоміка і культура развіваюцца не інтэнсіўна і не ў глыбіню, а экстэнсіўна і павярхоўна. Іспанцы, англічане, французы своечасова пайшлі насустрач лёсу, дэманціравалі свае імперыі. Германіі і Японіі "дапамаглі" іх паразы ў Другой сусветнай вайне. Палякам наогул пашэнціла: іхняя імперыя не адбылася. Сёння — чарга за Расіяй.

Што сёння трэба рабіць і куды ісці, калі наступіў драматычны час страты нацыянальных ідэалаў дэмаралізаванай псеўданароднай масы і адхілення нацыянальнай эліты ад палітычнай стратэгіі і дзяржаўнага кіравання? Адказ на гэтае пытанне тут магчымы толькі ў форме кароткіх тэзісаў.

1. Па-першае, не страчваць перспектыву нацыянальнай ідэі. Яна рэалізуецца ў скажонай форме нават тымі, хто сёння на чале нашай дзяржавы. Бо такі час, такі гістарычны кантэкст. Эпоха тэрытарыяльных, па сутнасці, напаўфеадальных імперыяў даўно мінула. Сёння магчыма толькі фінансавая імперыя. У нашай сітуацыі — гэта тады, калі расійскі рубель пераможа амерыканскі долар у сусветным маштабе. Варыянт цяжкі. Цягнік, як гаворыцца, даўно прайшоў. Варта было трансфармаваць сваю феадальную імперыю яшчэ ў 1920-я гады — па прыкладзе Англіі, Францыі ды іншых разумных дзяржаў.

2. З часоў Гегеля і самога Маркса захавалася філасофская прымаўка: Разумны ідзе насустрач свайму наканаванню, а неразумнага лёс валачэ да гэтай мэты. У XXI ст. для тэрытарыяльных імперый няма перспектывы: Расія пры наяўнасці разумнага дэмакратычнага кіраўніцтва магла б захаваць свае эканамічныя ды інфармацыйныя дамінанты на прасторы былой імперыі і былога СССР. З расійскай фінансавай імперыяй амерыканскага тыпу памірыліся б нават лідэры Чачні. З другога боку, у Расійскай Федэрацыі, куды хацелі б уцягнуць Беларусь расійскія палітыкі ад правых да левых (усе яны адносна Беларусі і Украіны ў той ці іншай меры банальныя чарнасоценцы), беларусаў чакае этна-культурная анігіляцыя, незайздросны лёс псеўдарускіх другога ці трэцяга гатунку, лёс хімернага этнасу, які гаворыць на жаргоне вялікай рускай мовы.

3. Гэтая аб'ектыўна аптымістычная перспектыва ажыццяўлення беларускай нацыянальнай ідэі зусім не азначае, што яно прыйдзе як манна нябесная. Нават пра Царства Нябеснае сказана, што яно пасля пракокаў "сілаю здабываецца". Тым больш — царства зямное. Неабходна духоўнае і грамадска-палітычнае змаганне за яго. Яўрэі пасля свайго расцярушання Рымскай імперыяй у I ст. н.э. змагаліся за сваю нацыянальную ідэю амаль два тысячагоддзі. Беларусы ваююць за сваю пакуль што каля двух стагоддзяў. У гэтай барацьбе ёсць патрэба ў тактычных кампрамісах, асабліва ў сферах эканомікі і палітыкі. Але немагчымы кампрамісы па крайняй меры ў сферы духоўных каштоўнасцяў — нашых трох святынях: роднай мовы і сваёй самабытнай культуры, нацыянальнай сімволікі, суверэннай дзяржавы. Страцім іх — загубім усё іншае. Барацьба за іх павінна быць няспыннай, хоць бы абазначанай сімвалічна. Тут ёсць евангельскі архетып. Калі слугі стараяўрэйскіх першасвятароў бралі Хрыста, каб забіць яго, апосталы не ведалі, што рабіць. Але "Сымон Пётр, дастаўшы меч, ударыў першасвятаровага раба, і адсек яму правае вуха" (Ян 18:10).

Зразумела, гэта сімвалічнае "вуха". Маецца на ўвазе вайна духоўная і меч духоўны.

# *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

## ЯШЧЭ, І БОЛЬШ ПРА ЎСЕВАЛОДА РОДЗЬКУ І НЕКАТОРЫХ ЯГОНЫХ ШКОЛЬНЫХ СЯБРОЎ.

Вельмі цікавы артыкул у № 6(54) "Бел. Дайджэст" пра Ўсевалода Родзьку нагадаў, што людзі не забываюцца пісаць пра нашых патрыётаў і змагароў, такіх як У. Родзька, М. Вітушка, Філістовіч ды інш. Як-бы яны патрэбныя былі-б у сучаснай беларускай сытуацыі. Хоць я ня вельмі здольны да пісаньня, але артыкул у "Бел. Дайджэсце" заахвоціў мяне крыху больш напісаць пра характар і дзейнасьць У. Родзькі.

Спаткаўся я і пасябраваў з Усеваладам ("Вовай") у пятай клясе ведамай польскай гімназіі ім. Адама Міцкевіча ў Наваградку. Ён сядзеў у другой лаўцы за мною і У. Набагезам. Поркаў мяне шпількаю вучачы "спартанскай" вытрываласьці. "Ну, Юзік — паспрабуй пажаліцца настаўніку, але лепш цярпі",— казаў ён, — таму я яго называў "пароцька". Дружылі мы добра, хоць ён ужо быў больш слаўным у гімназіі і калегаваў з багатымі польскімі вучнямі. Я памагаў яму ў матэматыцы, а ён мне ў польскай мове, якая была для мяне "ахілесавай пятою".

Як успамінае Б. Рагуля: "нялёгка прыходзілася беларускім хлопцам бараніць свае нацыянальныя правы ў польскай гімназіі... Як прыклад хачу ўспомніць эпізод у сёмай клясе. З 1936 году палякі пачалі прапагаваць ідэю т. зв. "праваслаўных палякаў". Сярод вучняў распаўсюджвалі брашуркі, дзе пісалі, што нават К. Каліноўскі быў праваслаўным, але добрым польскім патрыётам. У гімназіі вучылі дзьве гадзіны на тыдзень рэлігіі. Асобна католікаў, праваслаўных і габрэяў. Нашым праваслаўным "прафэсарам" быў а. Мікола Гарбацэвіч, які вучыў нас маліцца па славянску, а лекцыі рэлігіі чытаў па расейску. І вось на пачатку сёмай клясы прыслалі нам маладога сьвятара, украінца а. Скрыпніка, які кончыў тэалёгію ў Варшаве, і загадалі вучыцца рэлігіі па полску. Барыс Рагуля пайшоў па параду да свайго дзядзькі б. сэнатара Васіля Рагулі. Ён сказаў Барысу: "добра, што забаранілі вам вучыцца Закону Божага па расейску, але ня маюць права забараніць па беларуску". Барыс назаўтра шапнуў усім праваслаўным вучням, каб не адказвалі сьвятару па полльску, а Барыса ўсе слухалі. Неўзабаве да нас на лекцыю рэлігіі прыйшлі візытатары. Сам дырэктар гімназіі Рыбіцкі і выхаваўца нашай клясы праф. Выганоўскі (настаўнік польскай мовы). Родзька па сваёй прывычцы парнуў мяне шпількаю кажучы: "ты-ж не спалохайся "спартанец" і ня прабуй балтаць па польску".Пачалі лекцыю малітвай "Цару нябесны" і а. Скрыпнік задае пытаньне па польску пра трэйці Ўсяленскі Сабор і што было пастаноўлена на гэтым Саборы. Выклікаў Б. Рагулю, які на беларускай мове добра адказаў на пытаньне. Далей Янка Гутар таксама добра справіўся з пытаньнем па беларуску. Але калі выклікалі Наташу Мацееўскую, то тая расплакалася і кажа: "прошэн ксендза, я по бялоруску не умем". Айцец кажа: "то по польску ешчэ лепей". Візытатары са злосьцю пакінулі нашу лекцыю. Назаўтра Дырэктар Рыбіцкі выклікаў Б. Рагулю у канцылярыю і заявіў яму: "нам такі элемэнт не пажаданы ў нашай школе, шукай сабе іншае месца, калі хочаш далей вучыцца". Гэта выклікала вялікую шуміху ў гімназіі. Быў скліканы спэцыяльны сход "бацькаўскага камітэту", якога старшынёю быў дэнтыст Левін, габрэй. Б. Рагулю абаранілі.

Здаўшы матуры ў 1938 годзе некаторых нашых хлопцаў змабілізавалі ў польскае войска ў школы подхаронжых (афіцэрскія школы). Б. Рагуля і У. Родзька трапілі ў Замброў. Ю. Сажыч і У. Набагез пад Торунь. У верасьні 1939 г. усе апынуліся на фроньце а пазьней у нямецкім палоне. У. Родзька быў паранены і нейкім чынам апынуўся ў Варшаве. Я. Сажыч таксама ранны уцёк са шпіталя палонных у Лодзі і вярнуўся дамоў. Б. Рагуля з палону вярнуўся ў Любчу, дзе яго неўзабаве бальшавікі арыштавалі прыпісваючы нямецкае шпіёнства. У жывых застаўся ён проста цудам. Я. Сажыч заўчасу выязджае ў Львоў і паступае вучыцца на Ўнівэрсытэт. У. Набагез астаўся ў палоне праз усю вайну.

У часе ваенных падзеяў, я спаткаўся з У. Родзькам у Навагрaдку ў 1943 годзе, калі ён прыехаў сюды з Віцебску. Гэта быў ужо ня той шутлівы калега са школьных часоў, быў ён паважным мужчынам, жанатым і бацькам дачкі. Быў ён вельмі актыўным ва ўсіх беларускіх нацыянальных арганізацыях, уключна з падпольнай партыяй БНП, да якой я ўжо належаў завярбованы Б. Рагулям і Саковічам. Аказалася, што У. Родзька быў кіраўніком гэтай партыі пад псэўданімам "Воўк", пасьля сьмерці а. Гадлеўскага. Цяпер нашыя асабістыя адносіны сталіся іншымі, бо я адчуў ягоную ўладу і кіраўніцтва і быў гатоў выконваць ягоныя загады.

Калі я кончыў вышкаленьне ротаў беларускага чыгуначнага батальёну ў Лідзе, Маладэчна, Стоўпцах і нарэшце ў Баранавічах (немцы перасталі даваць зброю), дык тут я асеў настала як камандзер-лучнік паміж аддзеламі беларускіх чыгуначнікаў раскіданых па ўсіх станцыях Заходняй Беларусі. На ўсходзе ў Менску быў другі такі камандзер — Дзімітры Чайкоўскі, добры мой калега яшчэ з афіцэрскіх курсаў БСА у Менску. Цяпер я меў больш вольнага часу і мог заўсёды куды хацеў езьдзіць цягнікамі. Амаль кожную суботу езьдзіў у Менск, каб паглядзець беларускую опэру (лічу сябе энтузыястам). Часта заходзіў пераначаваць у т. зв. "беларускі кавалерскі калгас", дзе жылі Шукалойць, Кароль, Галяк ды інш. Яны заўсёды прымалі мяне ветліва. Спаткаўшыся са мною У. Родзька сказаў: "Юзік, ты больш гультаіць ня будзеш, ёсьць шмат розных абавязкаў і працы". Загадаў мне пераехаць у Менск і абняць камандаваньне школы кіраўнікоў ЗБМ, якую ён адкрыў і быў у ёй галоўным выкладчыкам. Маім заданьнем было трымаць парадак і вучыць вайсковай муштры. Быў сярод тых вучняў і малады Мікола Г., які спаткаўшы мяне неяк у Канадзе сказаў: " гэта ты той, што ганяў і муштраваў нас бязлітасна ў Менску, але мы цябе любілі і шанавалі". Прыпамінаю таксама аднаго юнака, Чобчыца, які меў прыгожы голас-тэнар, і я яго падахвочваў вучыцца сьпяваць і выраблять голас.

У 1944 годзе падрыхтоўваўся "Другі Ўсебеларускі Кангрэс". У. Родзька тады быў ужо сябрам Беларускае Цэнтральнае Рады, як прадстаўнік моладзі. Ён мне паведаміў, што я мушу са сваімі падафіцэрамі, добра ўзброенымі, быць часткай аховы гэтага Кангрэсу. Ён патлумачыў, што Кангрэс мае выносіць радыкальныя пастановы, уключна з агалошаньнем Незалежнасьці Беларусі. Калі-б немцы захацелі разагнаць гэты Кангрэс і арыштаваць дэлегатаў, дык мы павінны былі збройна бараніць дэлегатаў. Мне паручылі пільнаваць балькон на другім паверсе, адкуль я меў нагоду прыслухоўвацца да прамоваў і дыскусыяў Кангрэсу. Кончылася ўсё спакойна і хутка ўсе пачалі эвакувацца з Менску. Я вярнуўся ў Баранавічы, адкуль з дзьвюма сотнямі чыгуначнікаў адехаў апошнім цягніком з Цэнтральнае станцыі на захад. Заехалі мы ў Сарбрыкэн ля францускай граніцы, дзе нас разброілі і заставілі працаваць пры направе чыгункі.

Ужо тут дасягнулі нас бюлетэні БНП, у якіх кіраўнік партыі Воўк (Родзька) загадваў мне трымаць кантакт з усімі сябрамі і пры добрай нагодзе перайсьці да францускіх паўстанцаў... Аднак да гэтага не дайшло. Да мяне наведаўся Б. Рагуля з важнымі паперамі і забраў мяне ў Бэрлін. Там функцыянавала Бел. Цэнтральная Рада на чале з Р. Астроўскім, К. Езавітавым, Ю. Сабалеўскім, У. Родзькам і іншымі. Тут запрапанавалі мне быць адным з камандзераў дэсантнага батальёну ў Дальвіцы. Аднак паехаўшы туды, дзе спаткалі мяне з энтузыязмам быўшыя вучні падафіцэрскай школы БСА ў Навагрaдку ды некаторыя з чыгуначнага батальёну, я пераканаўся, што гэтая група ўжо добра вышкаленая і гатовая да адлёту.

К. Вітушка мяне пацешыў і сказаў, што мне трэба заставацца на захадзе. Перад адлётам, спаткаўшыся з Вітушкам у Бэрліне, ён мяне абняў на развітаньне і сказаў: "Маліся і жадай мне шчасьця". Ня мог я паўстрымацца ад сьлёзаў ведаючы, што гэтыя хлапцы ішлі на сьмерць, каб жыла Бацькаўшчына.

У міжчасе ў Бэрліне мяне паклікаў некалькі разоў у сваю канцылярыю генэрал К. Езавітаў, якому я мусіў здаваць рапарт, дзе я бываў, колькі людзей меў пад сваёю камандай і г. д. Ён усё дакладна запісваў. У гэтым часе паведамілі мне, што мяне шукае У. Родзька. Я адшукаў яго ў нейкім рэстаране ў падвале, дзе ён вёў тайную нараду з нейкімі ўкраінцамі і палякамі. Выйшаўшы з гэтай канфэрэнцыі У. Родзька прывітаўся са мною сардэчна і сказаў: "Здароў Юзік, як маешся і як пачуваешся? Маю для цябе важнае заданьне. Мусіш скантактавацца З Д. Касмовічам і разам перабрацца ў Швайцарыю, як ягоны вайсковы аташэ. Там вам трэба дабрацца да аліянцкіх амбасадараў і рэпрэзэнтаваць беларускую справу ад БНП, бо-ж без дапамогі звонку ніякае змаганьне ці паўстаньне ня ўдасца". У. Родзька перадаў мне пачку з паперамі ў якой было таксама 5 тысяч нямецкіх марак на расходы.

З Дзім. Касмовічам мы даехалі да места Зінгэн у Альпах. Затрымаліся ў назначаным гатэлі, дзе Д. Касмовіч ніяк ня мог заснуць прадчуваючы нядобрую сытуацыю. З намі меў скантактавацца нейкі спадар Шантыр, які меў перавесьці нас праз гарыстую граніцу. Але дзесьці каля чацьвёртае гадзіны раньня чуем стук у дзьверы і нейкая жанчына, гаворачы па польску, сказала нам, каб мы ўцякалі з гатэлю, бо нямецкае СД на нашых сьлядох і пляную нас арыштаваць. Відаць быў нейкі данос... На гэтым скончылася мая пасольская місія. Больш не спатыкаўся з Родзькам ані з Касмовічам.

Па рэкамэндацыі Б. Рагулі і ген. Езавітава мяне назначылі камандзерам афіцэрскай школы пры новаарганізаванай дывізіі ў Баварыі...

Маё супрацоўніцтва з Усеваладам Родзькам можа зацікавіць некаторых чытачоў, а для маладых нашых гісторыкаў магчыма прыдасца гэты матэрыял...

Падсумоўваючы хачу зазначыць, як і Сяргей Ёрш, што проста не вытлумачальна адкуль узялася нацыянальная беларуская арганізованасьць у часе Другой Сусьветнай вайны. Беларусы амаль не належалі да ніякіх палітычных арганізацыяў перад вайною... Самі сабою хлопцы выхоўваліся і гартаваліся нацыянальна і патрыятычна. Асабіста я меў шчасьце выхоўвацца ў гэтым сэнсе маючы двух сяброў, вельмі здольных лідэраў, — Б. Рагулю і У. Родзьку з якіх я часта ня ведаў, каго больш шанаваць ці слухаць. У. Родзьку я ўважаў як больш ідэялога-рамантыка і беларускага патрыёта, вельмі здольнага арганізатара-падпольшчыка. Б. Рагуля, з якім я больш бытаваў разам, быў больш практычным палітыкам, маючы палітычнае выхаваньне яшчэ з юнацтва ад свайго дзядзькі сэнатара Васіля Рагулі. Б. Рагуля да таго меў уроджаную здольнасьць і "карызму" да арганізаванага кіраваньня... Не магу не пахваліць, што ў беларускім адраджэньні ў часе вайны мусіць найбольшую ролю адыграла Навагрaдчына у справе вайсковай, адміністрацыйнай, адукацыйнай і культурнай. Нашыя лідэры пераважна выводзіліся з былых настаўнікаў і вучняў калішняй Беларускай гімназіі ў Навградку.

Юзік С.

Паважаны Рэдактар!

У "Голасе Радзімы" № 28 за 16 ліпеня 1998 г. быў зьмешчаны ўрывак з прамовы прэзыдэнта Беларусі А. Лукашэнкі аб любові беларускага народу да рускай мовы, якую, па ягоных словах, беларускі народ уважае як сваю родную мову.

Прыкра чуць такія словы ад "галавы" Беларускай незалежнай дзяржавы. Трэба ведаць, што Беларусь мае сваю слаўную гісторыю, сваю родную мову і свой сувэрэнітэт. Прэзыдэнт і ягоны ўрад павінны гэтым гардзіцца і паказваць народу, як трэба сваю мову шанаваць і цаніць. Кожная незалежная дзяржава сваю мову шануе і ўжывае яе у штодзённым жыцьці. Суседзі Беларусі, якія знаходзіліся ў Савецкім саюзе, па абвяшчэньні свае незалежнасьці двухмоўя ў свае канстытуцыі не ўвялі. Гэтыя краіны дзяржаўнай мовай зрабілі сваю нацыянальную мову...

З гісторыі ведаем, што царская Расея сілаю акупавала тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага, цяперашнюю Беларусь, у 18 стагодзьдзі і тэрорам пачала русыфікаваць беларускі народ. Беларуская інтэлігенцыя, якая супрацьставілася гэтай царскай палітыцы пазбаўлялася волі і высылалася ў Сібір. Беларуская мова была поўнасьцю забаронена...

25-га Сакавіка 1918 г. у Менску, Беларусь

# З нацыянальным — наперад!

Беларусь — востры боль. Беларушчына — незагойная рана.

Заўсёды радасна хвалюе, дадае сілы кожнае слова ў абарону беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай ідэі. Яно ўсяляе ўпэўненасць, што ёсць яшчэ рыцары на нашай зямлі, здольныя адстойваць яе інтарэсы і нашую чалавечую годнасць. Яно памнажае Дабро і служыць велізарнай падтрымкаю тым, хто мае глыбокую перакананасць у неабходнасці адраджэння беларушчыны, унутраную патрэбу гэтага.

Вялікі дзякуй і нізкі паклон Леаніду Лычу, доктару гістарычных навук, прафесару, які ўжо столькі гадоў нястомна і кампетэнтна з веданнем справы адстойвае беларускія інтарэсы ў галіне культуры, адукацыі. Яго кніга "Беларуская нацыя і мова" (Мн., 1994), як і шматлікія іншыя працы, найперш артыкулы, даўно ўжо сталі неабходнымі для мяне і маіх студэнтаў.

Артыкул Леаніда Лыча "З нацыянальным — не высоўвацца!" ("Народная воля", 18 красавіка 1998 г.) мяне ўсхваляваў асабліва. Прынцыповасцю, годнай і актыўнай пазіцыяй. Але і ўзрушыў іншым, ледзь улоўным.

Жаданне, веданне, разуменне таго, як павінна быць, імкненне да ідэалу — гэта адно. Рэалізацыя ідэалу ў канкрэтных сацыяльных умовах — на жаль, штосьці іншае. Пакуль мы гэтага да канца не ўсвядомім — датуль, на маю думку, беларусы будуць рамантыкамі ў палітычным жыцці, датуль адраджэнне беларушчыны будзе амаль безнадзейным.

Абсалютна зразумела, што без нацыянальнай адукацыі, нацыянальнай мастацкай культуры і нацыянальных сродкаў масавай інфармацыі наўрад ці магчыма не толькі паўнацэннае жыццё нацыі, але і само яе існаванне. Таму нармальны беларус са здаровым псіхічным складам павінен жадаць навучацца па-беларуску, слухаць радыё і чытаць газеты па-беларуску і г.д. — натуральна жыць у беларускай інфармацыйна-культурнай прасторы.

На першае месца я тут паставіла б менавіта адукацыйную сферу. Гэта тычыцца не толькі сярэдняй школы як беларускай. Кожны павінен мець гарантаванае рэальнае права на працяг адукацыі таксама па-беларуску — у прафесійна-тэхнічным вучылішчы, тэхнікуме, ВНУ. Роля менавіта вышэйшай школы надзвычай важная, дзякуючы яе прэстыжнасці, а таксама таму, што яна рыхтуе спецыялістаў для ўсіх сфер народнай гаспадаркі і для іншых навучальных устаноў.

Праблемы, звязаныя з метадычнай распрацоўкай беларускамоўнага выкладання, мусяць быць вырашаны найперш высокакваліфікаванымі кадрамі, выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў. Безумоўна, на гэта павінен быць дзяржаўны заказ — дзяржаўная праграма падтрымкі беларускай мовы з адпаведным фінансаваннем і адпаведным кантролем за яе выкананнем.

Сёння, як і пяць, і дваццаць гадоў таму, з нашым нізкім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці (дарэчы, мэтанакіравана скалечанай у выніку пэўнай палітыкі) беларуская мова выжыве толькі дзякуючы разумнай, паслядоўнай дзяржаўнай моўнай палітыцы. Канечне, калі не спадзявацца на Боскі цуд. Калі мы гэтага не разумеем — нам няма чаго рабіць ва ўстанове, якая спрабуе кіраваць сістэмай адукацыі ці культуры.

Зразумела, беларускія патрыёты, якія маюць дастаткова мужнасці і адказнасці за будучыню пакаленняў, б'юць у званы аб неабходнасці падтрымкі беларускага слова. Патрыятызм, апроч іншага, — гэта пачуццё повязі з роднай зямлёю, яно не можа не быць эмацыянальным. Але хіба не на Беларусь працуюць людзі, што, ціха выконваючы свой абавязак, ствараюць падмурак нацыі, так бы мовіць, тыл грамадзянскіх актывістаў? Я асабіста ведаю шмат людзей, узровень нацыянальнай самасвядомасці якіх досыць высокі, але склад характару падказвае ім зусім іншыя метады рэалізацыі беларушчыны... І што рабіць з мільёнамі, нацыянальная, грамадзянская няспеласць якіх якраз і абумоўлівае фактычную адсутнасць дзяржаўнай падтрымкі беларускай мовы?

Даўно вядома, што найбольш пакутуюць ад несправядлівасці якраз самыя чулыя, тонкія людзі, а таксама тыя, хто намнога апярэджвае свой час. Быць не прызнаным прарокам у сваёй Айчыне — гэта подзвіг і пакута. Працаваць на карысць высакароднай ідэі, на карысць Бацькаўшчыны эфектыўнымі метадамі, ужываючы даступныя ўспрыманню людзей спосабы, — гэта палітычная спеласць. На жаль, наш нерэалізаваны Закон аб мовах вымагае ад нас ужо не так рамантызму, як рацыяльнальнага, нават прагматычнага падыходу ў пошуках метадаў захавання і пашырэння беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця грамадства. Але заўсёды, рамантычна ці прагматычна, годнасць сваю лепш адстойваць годна, выхоўваючы ўласным прыкладам маладое пакаленне. Ідэя беларуская высакародная, яна вымагае ад нас актывізацыі найперш нашай асабістай духоўнасці, павышаючы гэтым духоўнасць у грамадстве і ствараючы перадумовы па-гаспадарску ашчаднага стаўлення да нашай роднай мовы.

У нас няма выбару, апроч як мець дзяржаўнае мысленне, а не толькі жаданне, і нават не толькі права — і гістарычна, і маральна справядлівае. Неабходна аб'ектыўна ацэньваць рэальную сітуацыю. Гэтая ж сітуацыя, напрыклад, з вышэйшымі навучальнымі ўстановамі сёння такая, што беларускамоўнае выкладанне ў іх носіць фрагментарны, непаслядоўны і нават адзінкавы характар. Мы мусім у першую чаргу перайсці на беларускую мову як абавязковую пры выкладанні дысцыплін сацыяльна-гуманітарнага цыклу. Найперш — беларусазнаўчых, культуралагічных. Вырашэнне такой задачы-мінімум было б рэальным крокам наперад да таго нацыянальнага універсітэта, які на дадзеным этапе мроіцца хоць і вельмі жаданай, але ўсё ж марай.

Першачарговай задачай зараз мне бачыцца стварэнне дзяржаўнага камітэта па моўнай палітыцы ў Рэспубліцы Беларусь, які б выпрацаваў канцэпцыю моўнага развіцця краіны і механізм яе рэалізацыі з улікам сусветнага вопыту і канкрэтнай беларускай сітуацыі. Маючы на мэце выпрацоўку пазітыўнага стаўлення да беларускай мовы ў грамадскай свядомасці, камітэт павінен быць міжведамасным. У яго складзе мусяць функцыяніраваць розныя навуковыя лабараторыі, якія б займаліся праблемамі беларускай, рускай, англійскай, польскай і іншых моў на Беларусі. Напачатку моўны камітэт мог бы забяспечыць сістэму дзяржаўнага пратэкцыянізму ў адносінах да беларускай мовы (падатковыя ільготы выдаўцам беларускамоўнай літаратуры, падтрымка грамадскіх арганізацый, чыя дзейнасць звязана з развіццём беларускай мовы, культуры і г.д.). На жаль, кампетэнтныя спецыялісты ў галіне вывучэння сусветнага вопыту полілінгвізму і выкарыстання апошняга ў нашых умовах пакуль што не запатрабаваныя.

Для мяне зразумела адно: трэба шукаць кантакты з людзьмі, якія ў нейкай ступені маюць канкрэтную ўладу прадвызначаць лёс нацыянальнай адукацыі і культуры. Трэба ўплываць на іх. Хоць духоўная, маральная сіла ў нас велізарная, давайце выкарыстоўваць яе і на тое, каб у чарговы раз не бразнуць дзвярыма, адчуўшы хвілінную палёгку... Але што потым?

На маю думку, калі б да шаноўнага В.М.Дабранскага, пра якога размова ішла ў вышэйпамянёным артыкуле Леаніда Лыча, звярнуліся б на прадмет стварэння нацыянальнага універсітэта не па тэлефоне, а з канкрэтнымі канструктыўнымі і аргументаванымі прапановамі, рэалізацыя якіх залежала б ад добрай волі Валерыя Міхайлавіча, карысці было б больш. Я ведаю: маючы ўласныя перакананні і разуменне сваёй кампетэнцыі як дзяржаўнага служачага пэўнага рангу, Валерый Міхайлавіч ставіцца да моўнага пытання як да выключна далікатнага і заўсёды адкрыты для канструктыўных размоў.

Не губляйма ж у адчаі сваіх лепшых нацыянальных рысаў. Не губляйма галавы. Гэтым і выжываем...

**Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК,**
**кандыдат філалогіі, вядучы інспектар Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі Міністэрства адукацыі.**

# Беларускія застольныя - у кожны дом

«ПАГОНЯ»

**Сапраўдным адкрыццём на музычным алімпе стала касета гарадзенскага народнага ансамбля беларускай песні «Гарадніца». «Made in Belarus» - пад такой назвай менская фірма «Vigma» выпусціла іх зборнік беларускіх застольных песен у танцавальнай апрацоўцы.**

Магнітаальбом адразу скокнуў на вяршыню беларускага хіт-парада, а «сінгл» «Ты ж мяне падманула» паспяхова круціцца на маладзёвых дыскатэках горада.

Магчыма, поспех касэце прынёс цудоўны сямейны дуэт Сафіі і Алеся Лойкаў, галоўных выканаўцаў песен магнітаальбома. Апрача гэтага, Алесь Лойка вядомы ў горадзе сваёй працай на пасадзе намесніка дырэктара Абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і бязменным кіраўніцтвам «Гарадніцай».

У гэтым годзе ансамбль беларускай песні «Гарадніца» будзе святкаваць свой першы круглы юбілей - 10-годдзе творчай дзейнасці. Вялікі букет такіх выдатных падзей і стаў повадам для нашай сустрэчы з Алесем Лойкам.

***- Вы ўжо 10 год з'яўляецеся мастацкім кіраўніком «Гарадніцы» і раптам - такі нетрадыцыйны крок, як запіс дыскаальбома. Што гэта, даніна модзе?***

- Гэта было зроблена з ініцыятывы выдатнага гарадзенскага аранжыроўшчыка Сяргея Чупрыны. Калі тая ж Расія ўсюды «валіць» свае «Залатыя кольцы» і ім падобнае, то чаму ж мы не можам? Ды і добрай справе гэта паслужыць - папулярызацыі беларускай музыкі. Я сам чуў некаторыя нашы песні на дыскатэках. Дзі-джэі туды яшчэ розных навамодных эфектаў дабаўляюць - для іх гэта, што называецца, «па прыколу». А мне цікава, што з гэтага праекту далей атрымаецца.

У зборнік беларускіх застольных песен увайшлі самыя вядомыя творы народнага мастацтва, тыя што ва ўсіх на слуху. Для нашых бацькоў застолле без песен было не ў радасць, і яны спявалі тыя ж «Ой, у полі жыта», «Каліна-маліна». Добра, калі якія з іх атрымаюць другое жыццё ў вуснах моладзі.

***- За доўгі час існавання «Гарадніца», напэўна, ператварылася ў сапраўдную музычную сям'ю?***

- Наш ансамбль - гэта калектыў аднадумцаў. Мы збіраемся кожны тыдзень па два разы, і на рэпетыцыі многія прыязджаюць з-за горада, з вёсак, а Андрэй Міхалькевіч - нават з Мастоў. У нас шмат цікавых народных інструментаў - цымбалы, дыятанічная ліра, дудкі, скрыпачкі. І кожны выканаўца - саліст, які працуе на выдатным прафесійным узроўні. Каб пахваліцца, выдам адзін сакрэт. У нас гаворାць: « З «Гарадніцы» не адыходзяць, з «Гарадніцы» я выганяю». А наогул, наш калектыў за 10 год змяніўся ўсяго на 50%. Гэта сапраўды адна сям'я - сумесныя святы, вандроўкі. Дзеці нашы падраслі, таксама да музыкі цягнуцца. І мы маем надзею, што неўзабаве з'явіцца малая «Гараднічка».

***- Спадар Алесь, Вы, напэўна, ужо выбралі свой шлях у рабоце з фальклорным матэрыялам. Што ж трэба рабіць, каб пазбегнуць, з аднаго боку, кансервацыі народнай культуры ў «вежы са слановай косткі», а з другога - яе прафанацыі?***

- У музыцы ёсць такі спецыяльны тэрмін - унісонна-гетрафонныя спевы, набліжаныя да аўтэнтычнага выканання. Гэта значыць, што трэба імкнуцца спяваць як мага натуральней, проста як гэта робяць бабулі з самых глухіх вёсак. Бо гэтыя спевы - прамы голас нашых продкаў, які мы павінны захаваць.

Аднак, з другога боку, час не стаіць на месцы. Мы не можам быць аўтэнтычнымі, бо для гэтага трэба жыць у вёсцы. Раней песня існавала ў ідовішчным комплексе, разам з танцамі і элементамі тэатралізацыі ў кожным абрадавым календарным цыкле. Цяпер жа гэтага няма, песня гучыць ізалявана ад усяго гэтага. Яна змяняецца. Фальклор, як і джаз, двойчы аднолькава ніколі не спяваецца, патрэбна імправізацыя. І Моцарт, каб жыў сёння, працаваў бы з сучаснай тэхнікай. Трэба імкнуцца да гармоніі традыцыі і сучаснасці, але гэта, як лінія гарызонта - недасягальная. У любым выпадку і папулісцкі падыход, і культ рынкавых каштоўнасцяў у падыходзе да народных спеваў ні ў якім разе прымаць нельга.

***- Як на ваш погляд, які ён, сучасны беларус, і якое месца ў ягоным жыцці займае фальклор?***

- Я лічу, што сучасны стэрэатып так званай беларускай ментальнасці недакладны. Ёсць, безумоўна, і талерантнасць, і цярплівасць, і «рукі ў мазалях». Але і мудрасць глыбокая. Вякамі жыць у такім суквецці народаў нашых суседзяў і заснаваць сваю культуру - гэта ўжо нешта. У нас жа да гэтай пары (можа часткова і з-за беднасці) ткуць па вёсках посцілкі і льняныя абрусы, плятуць карункавыя ручнікі і песні спяваюць. Гэтага ж нідзе, ні ў якіх цывілізаваных краінах няма. Гэта і ёсць мудрасць народная, яна ў генах. Ёсць і адметная беларуская манера выканання, якая адрозніваецца і ад еўрапейскай, і ад расійскай. У нас яна мякчэйшая і лірычнейшая, як сама Беларусь.

**Алена Сіневіч**

# Энцыклапедыя пра беларусаў за мяжой

У хуткім часе будзе падрыхтаванае да друку энцыклапедычнае выданне пра беларускую дыяспару ў свеце.

Як паведаміў дырэктар Нацыянальнага культурна-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны прафесар Адам Мальдзіс, у кнізе можна будзе знайсці інфармацыю пра беларусаў асобных краінаў (як суседніх, так і ў далёкім замежжы), а таксама звесткі пра ўсе беларускія нацыянальныя арганізацыі за мяжой, перыядычныя выданні і да т.п. Асобныя артыкулы будуць прысвечаныя выдатным людзям, якія праславілі беларускую зямлю і паспрыялі развіццю іншых культур.

Па словах Адама Мальдзіса, першы том багата ілюстраванай энцыклапедыі павінен быць падрыхтаваны да канца гэтага года, а цалкам выданне ўбачыць свет у 1999 годзе. Цэнтр імя Скарыны звяртаецца да ўсіх, каму вядомыя імёны і звесткі пра незаслужана забытых суайчыннікаў за мяжой, з прапановай аб супрацоўніцтве. Кантактны тэлефон у Мінску — 220-93-50.

**БелаПАН**

*„Навіны"*





# Сувэрэнітэт — гэта сьвятое!



У адным з майскіх нумароў мурманскай абласной газеты "Полярная правда" быў апублікаваны артыкул старшыні абласной думы Паўла Сажынава, які быў прысвечаны сустрэчы парламентарыяў Расіі і Беларусі ў Гомелі. Ён піша, што Гомель яму вельмі спадабаўся, што "горад выключна чысты і акуратны".

Але асноўная думка артыкула — тая, што Расія і Беларусь павінны быць у адной дзяржаве, бо гэта імкненне як рускіх, так і беларусаў. Аўтар пацвярджае гэта тым, што дзе ён ні быў, у яго ўсе пыталіся: калі ж будзем жыць у адной дзяржаве?

Я не аспрэчваю словы паважанага старшыні мурманскай думы. Сапраўды, такое магло быць, і людзі, якія зацікаўлены ў стварэнні адзінай дзяржавы, былі ў асноўным адстаўнікі былой Савецкай Арміі, якіх "хоць гаць гаці" ў маім Гомелі і якія, пры ўсёй увазе да іх, атрымліваюць пенсію меншую, чым іх калегі ў Расіі.

Калі ў час адпачынку бываю на Гомельшчыне, я заўсёды цікаўлюся, як адносяцца мае землякі да таго, каб жыць рускім і беларусам у адной дзяржаве. Дык вось: людзі кажуць зусім адваротнае. Мае суразмоўцы падкрэсліваюць, што жыццё ў Беларусі больш стабільнае і што ў нас больш парадку, чым у Расіі. Больш таго (гэта датычыць у значнай ступені моладзі), людзі стаяць на пазіцыях, што Беларусь павінна быць незалежнай і самастойнай дзяржавай і што былога Саюза не аднавіць. Пры гэтым, усе за тое, што Беларусь павінна быць у самых лепшых адносінах з Расіяй.

Вядома ўсім, што Садружнасць не працуе і назначэнне выканаўчым сакратаром Барыса Беразоўскага "наўрад ці што зменіць": вельмі ж далёка адышлі былыя савецкія рэспублікі адна ад адной!

Вядома і тое, што Расія больш за ўсіх зацікаўлена ў тым, каб Садружнасць існавала. Тут некалькі прычын. На думку многіх, у Расіі стратэгічная лінія павінна заключацца ў тым, каб крок за крокам паступова весці курс на аднаўленне, на адраджэнне "союза нерушимых республик свободных", што дасць расійскай прамысловасці рынак збыту сваіх тавараў.

Згадаем прыклад з гісторыі. Калі ў другой палове XIX стагоддзя да Расійскай імперыі была далучана сучасная Сярэдняя Азія, стаў назірацца эканамічны пад'ём краіны.

Непатрэбна скідваць з рахунку і так званы псіхалагічны фактар. Расія, як дзяржава, фарміравалася на працягу многіх стагоддзяў, і гэта наклала адбітак на псіхалогію рускіх: яны прывыклі жыць у вялікай дзяржаве. Многія рускія людзі ледзь не плачуць: немагчыма нават у думках уявіць, што Кіеў, "мать городов русских", з'яўляецца замежным горадам.

Што ж да Беларусі, то размова ў значнай ступені ідзе ў адным напрамку — яна павінна быць у адзінай дзяржаве з Расіяй. Гэта асабліва відаць па публікацыях. У расійскім штотыднёвіку "История" жыхары Беларусі, як і ў час Кацярыны II, называюцца "западнорусским населением".

Можна з дакладнасцю гаварыць аб будучыні Беларусі ў адзінай дзяржаве. Ёй будуць, вядома, дадзены правы "культурнай аўтаноміі", дарэчы, распрацаваныя таварышам Сталіным у далёкія дваццатыя гады. Але калі зыходзіць з рэальнага становішча культуры Беларусі, найперш мовы, дык можна канстатаваць адно: праз некалькі дзесяцігоддзяў, на працягу аднаго пакалення будзе ліквідавана ўсё нацыянальнае беларускае. Беларусь увойдзе ў сусветную гісторыю як легендарная Атлантыда. І непатрэбна будзе тады ніякая "культурная аўтаномія".

Беларусь у адзінай дзяржаве зменіцца і ў адміністратыўным плане: будуць ліквідаваны вобласці; Мінск, як пішуць некаторыя ў расійскай прэсе, стане "звычайным рускім губернскім горадам".

Што ж уяўляе сабой Расія пасля таго, як стала незалежнай?! Дарэчы, зараз усе зыходзяцца ў адным акурат: Расійская Федэрацыя з'явілася своеасаблівым лакаматывам у "развале вялікай дзяржавы". Дык вось, незалежнай Расія не стала, вобразна кажучы, своеасаблівым магнітам, які б прыцягваў да сябе краіны "бліжэйшага замежжа". Павінна была б стаць, але — не стала, бо сама пагразла ў хаосе, стала цэнтрам не "стваральных, а разбурыальных імпульсаў", не змагла захаваць механізмы эканамічных узаемаадносін. З горыччу пішуць расійскія палітолагі і аб тым, што іх краіна фактычна стала "крымінальна-карумпаванай краінай". Назіраецца рэзкая палярызацыя на бедных і багатых.

Як вядома, працягласць жыцця грамадзян з'яўляецца своеасаблівым люстэркам любой краіны, бо на гэта ўплываюць эканамічныя, сацыяльныя, палітычныя і іншыя фактары. І што мы назіраем? Скажам, наша гарадская газета "Мончегорский рабочий" нядаўна паведаміла, што працягласць жыцця мужчын у нашым горадзе складае ўсяго 45 гадоў. Можна пагадзіцца з тым, што мы жывём у Запаляр'і, дзе чэрвень — яшчэ не лета, а ліпень — ужо не лета, што ў горадзе вельмі складаная экалагічная сітуацыя. Нам непатрэбна ляцець на Месяц: месяцовы ландшафт, дзякуючы камбінату "Североникель", акружае наш горад. Жыхары Манчагорска гавораць: мы жывём горш, чым у чарнобыльскай зоне. Але ж у Расіі наогул працягласць жыцця грамадзян невысокая, не ўсе дажываюць да пенсійнага ўзросту.

Возьмем другі сацыяльны аспект. Зараз у Расіі беспрытульных дзяцей больш, чым было пасля грамадзянскай вайны. Можна ўявіць, якое будзе пакаленне праз некалькі год ад гэтых пазбаўленых мацярынскага цяпла дзяцей.

Карацей кажучы, праблем у Расіі столькі, што цяжка сказаць, дзе ў ёй той ланцуг, які павінен выцягнуць іх.

Я глыбока перакананы, што ў невялікай дзяржаве, якой з'яўляецца Беларусь, лепш навесці парадак, чым у краіне ад Уладзівастока да Брэста. Мае рацыю Прэзідэнт Лукашэнка, калі гаворыць, што за апошнія гады ў рэспубліцы многа пабудавана. Возьмем, напрыклад, Гомель. Там пабудаваны сучасны прыгарадны вакзал. Не сумняваюся, што ў адзінай дзяржаве гэта было б цяжка зрабіць. Масква не можа бачыць усіх мясцовых праблем. Дастаткова нагадаць, як будаваўся мост праз Днепр у Жлобіне ў савецкія часы. На якія хітрыкі ішло рэспубліканскае кіраўніцтва, каб паставіць перад Дзяржпланам СССР уключэнне ў план будаўніцтва моста!

Мы гаворым аб адзінай эканамічнай зоне краін Садружнасці, прабіцца на сусветны рынак немагчыма — наша прадукцыя неканкурэнтаздольная. Усё гэта так, але ж мы павінны глядзець наперад. У свой час Сталін гаварыў: "Слабых б'юць..." Калі будзе выпускацца прадукцыя, якая не адпавядае сусветным узорам, яна абавязкова будзе цягнуць эканоміку назад. І калі беларускія заводы будуць патрабаваць ад сумежнікаў паставак высакаякаснай прадукцыі, то для гэтага непатрэбна адзіная краіна. Якія прыклады ні прыводзілі б з жыцця краін Заходняй Еўропы, там не стаіць пытанне аб стварэнні Злучаных Штатаў Еўропы. Там сапраўды многае уніфікавана ў сацыяльнай і эканамічнай галінах, але сувэрэнітэт дзяржаў — свяшчэнны.

Возьмем іншы бок, які звязаны з нафтай і газам. Мае апаненты як у Расіі, так і ў Беларусі гавораць, што рэспубліка можа адчуваць сябе больш-менш здавальняюча, калі ў дастатковай колькасці будуць паступаць энерганосьбіты, а для гэтага патрэбна, маўляў, жыць у адзінай краіне. Святая праўда! У нашай Мурманскай вобласці на працягу некалькіх гадоў некаторыя гарады зімой знаходзяцца на мяжы замярзання. Мазут ёсць, але за яго патрэбна плаціць, а грошай у адміністрацыі няма, бо не паступаюць падаткі з прадпрыемстваў, а яны, у сваю чаргу, не працуюць. Замкнёны круг!

Мы павінны добра ведаць, што няма ўжо планавай эканомікі, як, на жаль, няма і сацыялізму. А ёсць, паводле слоў дзяржаўнага дзеяча Расіі Барыса Нямцова, "дзікі капіталізм".

Калі чытаеш мурманскія газеты, то добра ўяўляеш, як бедна мы жывём. Нам дапамагаюць многія краіны, у першую чаргу скандынаўскія, але няма дапамогі ад буйных расійскіх кампаній, накшталт "Газпрама".

Адзначу яшчэ адну акалічнасць. Многія вядомыя вучоныя і геолагі Расіі падкрэсліваюць, што не так шмат засталося нафты і газу, а яны, дарэчы, з'яўляюцца галоўнай крыніцай паступлення валюты. Пройдзе дзесяць ці дваццаць год і нафты і газу не будзе ў такой колькасці... І што далей? Трэба жыць не толькі сённяшнім днём, а думаць і пра заўтра.

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ**
*г. Манчагорск, Мурманская вобласць*

# Санкцыі дайшлі да правінцыі

**Наступствы недружалюбнай знешняй палітыкі прэзідэнта Лукашэнкі ўжо адчулі нават у Кобрыне**

Нядаўна ўлады гэтага райцэнтра Брэсцкай вобласці атрымалі паведамленне, што запланаваны візіт мэра нямецкага горада-пабраціма Ульсэна не адбудзецца. Нямецкае кіраўніцтва параіла яму ўстрымацца ад візіту ў сувязі з палітычнай напружанасцю.

Супрацоўніцтва паміж Кобрынам і Ульсэнам працягваецца ўжо 9 гадоў. Пастаянна адбываўся абмен дэлегацыямі, а нямецкія калегі правялі ў Кобрыне нямала семінараў, падчас якіх дзяліліся з мясцовымі ўладамі сваім досведам вядзення гарадской гаспадаркі. Цяпер супрацоўніцтва пад пагрозай.

Кобрынскія чыноўнікі, аднак, спадзяюцца, што міжнародны скандал не паўплывае на іхнія адносіны з уладамі швейцарскага горада Гляруса. На швейцарскія грошы ў Кобрыне вядзецца будаўніцтва гатэля «Сувораў», які будзе адпавядаць усім еўрапейскім патрабаванням. Мяркуецца, што пасля заканчэння будаўніцтва гатэль будзе перададзены ў карыстанне адной з буйных еўрапейскіх турыстычных фірмаў. Швейцарцы плануюць занесці кобрынскі гатэль у міжнародныя турыстычныя каталогі і прапаноўваць яго падарожнікам, якія накіроўваюцца на Усход, у якасці добрага і надзейнага месца прыпынку. У мэрыі Гляруса запэўнілі, што ўсе запланаваныя **культурныя і гуманітарныя праграмы** паміж гарадамі-пабрацімамі будуць абавязкова выкананыя.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



# Дапаможам закончыць будову Беларускага Музэю ў Гайнаўцы на Беласточчыне





Так выглядае галоўная частка Беларускага Музэю ў Гайнаўцы на Беласточчыне, Польшча.

## Дарагія суродзічы і чытачы!

У хуткім часе плянуецца правесьці аднаразовую зборку ахвяраваньняў (фінансавых) на заканчэньне будовы Беларускага Музэю ў Гайнаўцы, на Беласточчыне. У гэтай акцыі возьмуць удзел усе краіны сьвету, дзе пражываюць беларусы. Сюды ўключаюцца: Эстонія, Латвія, Летува, Польшча, Расея, Украіна, Заходняя Эўропа, Аўстралія, ЗША, Канада ды інш.

Цяпер рыхтуюцца ўсе патрэбныя, для гэтае вялікае і небывалае акцыі, паперы і адозвы. У працоўны камітэт уваходзяць выдатныя і дзелавыя людзі беларускага замежжа. Дапамагчы закончыць пабудову Беларускага Музэю на Беласточчыне, гэта абавязак усіх людзей з беларускай душою. Просім падрыхтавацца да гэтае акцыі... Усе прапановы і ідэі перасылайце на адрас "Беларускага Дайджэсту". Дзякуем за ўвагу.

